Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 15 (4918) 14 красавіка 2017 г.



# ДЗЕЛЯ ЖЫЦЦЯ ВЕЧНАГА

***Вясна ўжо крочыць па Зямлі, але надыходзіць час вясны духоўнай: яна аднаўляе і сілкуе жыццё. Вялікі дзень — у памяць пра тое, што чалавек здольны перамагаць любыя складаныя абставіны, здраду і нават смерць. Калі ён гатовы служыць і ахвяраваць сабой дзеля іншых. І як зямля да Вялікадня абнаўляецца да новага жыцця, так і ў чалавека ёсць магчымасць скінуць цяжар нявартых учынкаў, зрабіць крок да таго, каб змяніць сябе і рабіць лепшым наш агульны свет. Сёлета ўваскрэсенне Ісуса Хрыста ў адну нядзелю сустрэнуць усе хрысціяне Беларусі. Зямля сцішылася ў прадчуванні перамогі духоўнага над фізічным, вечнага над часовым…***



*Фота Кастуся Дробава.*

*Акрамя велікодных яек рабілі велікодныя паштоўкі: шчырае віншаванне для блізкіх, што сустракаюць святочны дзень далёка ад сям'і.*

Велікодныя яйкі сёння — яшчэ і сімвалы разнастайнасці жыцця. Яны могуць быць простыя, пафарбаваныя ў хатніх умовах падручнымі сродкамі, натуральнымі спосабамі. А ёсць адмыслова выробленыя, аздобленыя каштоўнымі камянямі знакамітыя вырабы дому Фабержэ ці арыгінальныя штучныя экзэмпляры з парцаляну, дрэва ды іншых матэрыялаў. Народныя пісанкі з самавітымі сюжэтамі, складанымі арнаментамі ды нацыянальным каларытам, якія сведчаць пра лад жыцця сваіх стваральнікаў…

Непрыкметныя на агульным фоне чырвоныя фарбаванкі, самыя звычайныя і ў той жа час самыя старажытныя. За простай чырвонай шкарлупінай — прыхаваны сакральны сэнс: евангельская прыпавесць пра Марыю Магдалену, што прыйшла да рымскага імператара Тыберыя з весткай пра ўваскрэсенне Хрыстовае ды падарункам-доказам — яйкам, якое пачырванела на вачах здзіўленага імператара. Чырвоны — сімвал крыві сына Божага, які ахвяраваў сабой дзеля даравання грахоў чалавецтва, каб працягнуць жыццё гэтага свету, каб кожны чалавек і кожны народ быў адказны за свой шлях. Колер, які ў славян да таго асацыяваўся з сонцам, здароўем і дабрабытам. На Вялікдзень — малітвы за здароўе: у Бога няма смерці, а ёсць шлях, які вядзе да жыцця вечнага.

Цяпер яйка не толькі сімвал — яно стала даволі запатрабаваным і нават папулярным мастацкім аб'ектам. Зразумець гэта можна, аглядаючы выстаўку «Велікоднае яйка», якую напярэдадні вялікага хрысціянскага свята не першы год ладзяць у кабінеце-музеі беларускай народнай культуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Пад кіраўніцтвам загадчыцы музея, прафесара, доктара філалагічных навук Ірыны Казаковай пачалі збіраць першыя экспанаты. Аснова экспазіцыі — пісанкі, крапанкі, фарбаванкі ад беларускіх майстроў. Возьмеш яйка ў рукі і адчуваеш, як знутры аб шкарлупіну б'ецца жаўток: яго захоўвае адмысловы спосаб падрыхтоўкі да роспісу. Ёсць асобнікі з вялікай гісторыяй: распісанае абразамі стагадовае яйка ад прабабулі адной з выкладчыц; драўляныя ды парцалянавыя яйкі з манастырскіх майстэрняў. Вобразы беларускага арнаменту адлюстраваныя на шкарлупінах і нават у французскай тэхніцы фрывалітэ. Аплеценыя карункамі яйкі сімвалізуюць апосталаў, сярод іх — Маці Божая, найпрыгажэйшы ружовы авал з каронай. Экспанаты не толькі беларускія. Частка калекцыі прыехала з Украіны (музей «Пісанка» ў Каломыі) ды Расіі. Прадстаўлена нават упрыгожанае яйка з Кітая — падарунак ад студэнтаў-замежнікаў. Велікодная выстаўка пашыраецца, штогод з'яўляюцца новыя экспанаты, якія маюць дачыненне да хрысціянскай гісторыі. Сёлета, прынамсі, прадстаўленыя панагіі (пазнакі, што носяць на грудзях архіерэі) і ружанцы, якія перадаў музею сталічны мастак Казімір Карпенка. Вырабы мастака аб'ядноўваюць традыцыі розных культур, спалучаючы абразы, натуральныя камяні, біжутэрыю.

Частка пастаяннай экспазіцыі музея — пано, зробленае ва ўжо згаданай тэхніцы фрывалітэ. У цэнтры — Зямля, вакол — сімвалы, што ўвасабляюць уяўленне пра веру прадстаўнікоў розных народаў. На філалагічным факультэце, дзе беларусы разам з роднай мовай вывучаюць гаворкі народаў свету, неабходна памятаць, што ў нашым адзіным, агульным глабальным свеце ўсе культуры, якія ўзніклі і развіваюцца з ласкі Божай, маюць права на сваё вечнае жыццё.

**Ларыса ЦІМОШЫК,**
**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў рэдакцыі часопіса «Вясёлка» з 60-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумара выдання. «На працягу многіх гадоў ваша выданне служыць надзейным сябрам і добрым дарадчыкам для юных чытачоў, дапамагае выхоўваць у маладога пакалення любоў да Радзімы, павагу да нашай мовы, гісторыі і культуры, — адзначыў кіраўнік дзяржавы. — Дзейнасць часопіса заўсёды была накіравана на развіццё лепшых традыцый беларускай дзіцячай літаратуры і журналістыкі».

✔ Дэлегацыя Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узяла ўдзел у IX Міжнароднай кніжнай і паліграфічнай выстаўцы «Па Вялікім Шаўковым шляху-2017», якая праходзіла ў Алматы (Казахстан). Падчас адкрыцця выстаўкі адбылася прэзентацыя нацыянальнага стэнда, прысвечанага 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, дзе былі прадстаўлены лепшыя навінкі вядучых айчынных выдавецтваў.

✔ У Дзень касманаўтыкі ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага адкрылася рэтраспектыўная выстаўка «касмічных» работ народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэата прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва Івана Міско. Экспазіцыя прысвечана 85-гадоваму юбілею майстра, якога называюць «касмічным» скульптарам, бо касманаўтыка — адна з цэнтральных тэм яго творчасці.

✔ Напярэдадні Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь у Гродне вырашана правесці марафон «Талентаў россып — да Свята Краіны». З 26 чэрвеня па 2 ліпеня з 18.00 да 22.00 штодзённа на Савецкай плошчы абласнога цэнтра будуць ладзіцца канцэрты аматарскіх творчых калектываў Прынёмання, якія маюць званне «заслужаны», «народны» і «ўзорны».

✔ У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны 20 красавіка адкрыецца выстаўка «Як я бачу вайну і мір». У экспазіцыі — каля 30 работ навучэнцаў мастацкай студыі «Флорыя» Рэспубліканскага цэнтра экалогіі і краязнаўства. Напрыканцы мая будуць вызначаны чатыры лепшыя работы, за адну з якіх — перамножцу ў намінацыі «Прыз сімпатый гледачоў» — прагаласуюць наведвальнікі музея.

✔ Рэспубліканскі краязнаўчы форум педагагічных работнікаў «Школьнае краязнаўства на сучасным этапе: пераемнасць традыцый і дасягненняў» адбўся ў Слуцку. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел дэлегацыі з усіх рэгіёнаў краіны. У Слуцкім цэнтры дзіцячай творчасці былі прадстаўлены цікавыя фотаі відэасюжэты пра дзіцячаюнацкі турызм і краязнаўчую працу ва ўстановах адукацыі Слуцкага раёна.

# Пасхальнае пасланне мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, архіпастырам, пастырам, дыяканам, манахам і ўсім верным сынам і дочкам Беларускай Праваслаўнай Царквы

Узлюбленыя ў Хрысце Уваскрэслым Праасвяшчэнныя архіпастыры, богалюбівыя прасвітары і дыяканы, шаноўныя інакі і інакіні, богалюбівая паства Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Сардэчна вітаю вас у гэты вялікі і спасіцельны дзень светлай радасці аб Уваскрэслым Госпадзе нашым Ісусе Хрысце словамі Пасхальнага вітання:

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

На працягу многіх стагоддзяў у святланосныя пасхальныя дні людзі, вітаючы адзін аднаго гэтым спасіцельным дабравесцем, сведчаць пра ісціннасць падзеі планетарнага значэння, якая адбылася каля дзвюх тысяч гадоў таму.

Хрыстос уваскрэс — Божая сіла Спасіцеля свету перамагла смерць. Гэтым дзеяннем Гасподзь даў кожнаму, хто паверыць у Яго і ўвойдзе ў Царкву Хрыстову, сапраўдную свабоду, магчымасць адраджэння і ўваскрасення для жыцця вечнага. Подзвігазаснавальнік Хрыстос, вызваліўшы нас ад смерці і разарваўшы путы граху, што аддзяляў чалавека ад Бога, адкрыў чалавецтву шлях — праз пакаянне і духоўнае праабражэнне — да жыцця вечнага ў Яго Нябесным Царстве, напаўняючы ўжо тут, на зямлі, жыццё сапраўднага хрысціяніна пасхальнай радасцю, ісцінным сэнсам і надзеяй.

Пасля Уваскрасення Свайго Ісус Хрыстос сеў праваруч Бога Айца, і туды, у Царства Нябеснае, Ён заклікае нас звярнуць свае позіркі для таго, каб зразумець, навошта мы прыходзім у гэты свет, да чаго мы заклікаíны і куды павінны імкнуцца ва ўсе дні нашага жыцця на зямлі. Дзеля нас і дзеля нашага спасення прыйшоў у свет Сын Божы. Дзеля кожнага з нас Ён сышоў на зямлю, прыняўшы чалавечую прыроду, пакутаваў на Крыжы, быў пакладзены ў Гроб, сышоў у пекла і ўваскрэс з мёртвых. Сын Божы стаў сынам чалавечым, каб мы, тыя, што ўверавалі ў Яго і пайшлі ўслед за Ім, сталі сынамі Божымі. Стаць сынамі Божымі — гэта наша прызванне, гэта — мэта нашага жыцця на зямлі і гэта наша надзея.

Мы заклікаíны пранесці радасную вестку пра Хрыста Уваскрэслага праз усё наша жыццё, захоўваючы ў сэрцы запаведзь Спасіцеля нашага і Госпада: *«Так няхай свеціць святло ваша перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя ўчынкі і ўслаўлялі Айца вашага, Які на нябёсах»*. Мы заклікаíны памнажаць у душах нашых водбліскі ззяння славы Божай. Жыццё Хрыста Спасіцеля і Яго слаўнае Уваскрасенне адкрываюць нам гэты шлях праз здзяйсненне спраў дабра, любові і міласэрнасці. Праз выкананне запаведзяў Гасподніх мы можам напоўніць святлом Хрыстовым жыццё наша і людзей вакол нас.

Дарагія браты і сёстры, слаўнае свята Уваскрасення Хрыстовага заклікае нас скіроўваць свае сілы і працаваць дзеля славы Божай, дзеля славы Царквы Хрыстовай, дзеля дабра і згоды ў грамадстве. Дасягнуць гэта можна толькі на аснове высокіх духоўна-маральных каштоўнасцей.

Праасвяшчэнныя архіпастыры, узлюбленыя айцы, браты і сёстры, віншуючы ўсіх вас са святам светлага Хрыстовага Уваскрасення, малітоўна жадаю, каб пасхальнае лікаванне пастаянна было ў душы кожнага з нас, умацоўвала веру, усяляла радасць і надзею на Уваскрэслага Спасіцеля і Госпада Ісуса Хрыста. Няхай гэтай бясконцай радасцю напоўніцца ўсё наша жыццё. А мы будзем сёння і надалей дарыць гэтую радасць усім: і тым, хто сёння радуецца і лікуе, і тым, хто хварэе ці пакутуе, адчувае нястачы ці мае патрэбу ў спагадзе, — будзем несці ўсім людзям благадатную вестку пра Хрыста Уваскрэслага і пра радасць яднання з Ім.

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

САПРАЎДЫ УВАСКРЭС ХРЫСТОС!

**ПАВЕЛ,**
**мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі**



Фота Кастуся Дробава.

# Пастырскае пасланне Мітрапаліта Кандрусевіча на Вялікдзень

## Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры, людзі добрай волі, жыхары Беларусі! Сардэчна вітаю і віншую ўсіх вас гэтым пасхальным воклічам з радасным і збаўчым святам Уваскрасення Хрыста, калі нашы сэрцы і думкі зачараваны перамогай Езуса над грахом, смерцю і злым духам.

Евангелле распавядае, як на трэці дзень пасля смерці Езуса жанчыны міраносіцы накіраваліся да Яго магілы, каб паводле габрэйскага звычаю намасціць Яго цела пахучымі алеямі. Гэта здарылася раніцай, калі навокал было цёмна. Але было цёмна таксама і ў іх душах: Езус, які абяцаў вечнае жыццё, сам знаходзіўся ў цёмнай і заваленай вялікім каменем магіле. Якое ж здзіўленне агарнула іх, калі ўбачылі камень адвалены ад магілы, а ўнутры яе замест цела Езуса, — анёла, які ім сказаў: «Не бойцеся! … Шукаеце Езуса ўкрыжаванага. Яго тут няма, Ён уваскрос, як сказаў… Ідзіце хутчэй, скажыце вучням Ягоным, што Ён уваскрос і апярэджвае вас у Галілеі. Там Яго ўбачыце». Гэтыя словы, якія прагучалі больш за 2000 гадоў таму ў Ерузалеме, гучаць сёння ў свеце Заходняга і Усходняга хрысціянства, бо сёлета мы ўсе разам адзначаем Вялікдзень. Яны адрасаваны кожнаму чалавеку і імі Езус кліча нас стаць пры Яго пустой магіле, каб пераканацца, што Ён сапраўды ўваскрос і заклікае сустрэць Яго ў нашай беларускай Галілеі.

Нягледзячы на факт пустой магілы і словы анёла, паводзіны жанчын міраносіц і апосталаў непасрэдна пасля ўваскрасення Хрыста з'яўляюцца парадаксальнымі. Яны пазналі вучэнне Езуса, былі сведкамі Ягоных цудаў, ведалі абяцанне ўваскрэснуць на трэці дзень, аднак не маглі ў гэта паверыць. Натуральная праўда пра тое, што памерлы застаецца памерлым назаўсёды, дамінавала ў іх сэрцах. У выніку іх богам быў страх, а не ўваскрослы Хрыстус.

Чаму нашы сэрцы марудныя і не хуткія да веры? Чаму яны не спяшаюцца даверыцца Езусу і ў Ім мець сваю надзею? Хто наш Бог? Мы задаём сабе гэтае пытанне і шукаем адказ. Поспех? Кар'ера? Матэрыяльныя каштоўнасці? Задавальненні? Да гэтага імкнецца сучасны чалавек і гэта становіцца яго богам. Аднак нічога з гэтага не задаволіць наша сэрца, бо зямное мінае, а вечнае застаецца. Таму, як кажа св. апостал Павел, неабходна шукаць тое, што ў вышынях, а не на зямлі. Адзіны, хто можа гэта ўчыніць, — гэта ўваскрослы Езус. Толькі Ён можа прабачыць нам грахі і адарыць радасцю вечнага жыцця. Толькі Ён з'яўляецца дарогай, праўдай і жыццём. Толькі Ён з'яўляецца бязмежнай міласэрнасцю, любоўю і прабачэннем. Толькі Ён заўсёды жадае нам дабра.

У сакрамэнце хросту мы разам з Хрыстом памерлі для граху і ўваскрэслі для жыцця ў Божай ласцы. Таму ў супярэчлівасці сучаснага свету не будзем баяцца выбраць Яго. Ён не адкіне нас і прыме з міласэрнай любоўю, бо жадае вызваліць з грахоўнага палону і ўплыву фальшывых багоў сучаснага свету. Усё гэта азначае, што праўда Уваскрасення кліча нас выйсці з магілы маральнага заняпаду да жыцця ў Божай ласцы і выбару нязменнай праўды Евангелля.

Мы часта выкарыстоўваем слова «надзея». Далёка не заўсёды такія спадзяванні ажыццяўляюцца. У той жа час наша надзея абгрунтавана чымсьці іншым — праўдай уваскрасення Хрыста, якая з'яўляецца падмуркам нашай веры. Дарагія браты і сёстры! Віншую вас са святам Пасхі Хрыстовай! Віншую ўсіх хрысціян — каталікаў, праваслаўных і пратэстантаў, бо сёлетняя Пасха з'яўляецца сумесным святкаваннем перамогі Хрыста! Віншую людзей добрай волі! Няхай велікодная праўда дапамагае нам адказваць на выклікі сучаснасці. Няхай умацоўвае, каб мы жылі згодна з абяцаннямі хросту і з духам Евангелля. Няхай яе радасць, благаслаўленне і навізна дасягне нашых дамоў, сем'яў, месцаў працы і вучобы, і ўсёй нашай Бацькаўшчыны! А ўваскрослы Езус сваёй ласкай няхай дапамагае нам зведваць штодзённае ўваскрашэнне да новага жыцця і толькі Яго прызнаваць сваім Богам. Свае пажаданні ўмацоўваю благаслаўленнем у імя Айца, і Сына і Духа Святога. Хрыстус Уваскрос! Сапраўды Уваскрос! Аллелюя! Амэн.

**Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**

# ПРЭМІІ ФЕДЭРАЦЫІ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ 2017 ГОДА

ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці

**29 сакавіка 2017 г. Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прысудзіў прэміі 2017 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці з прысваеннем звання лаўрэата, уручэннем Ганаровага знака, дыплома і грашовай узнагароды:**

| | |
|---|---|
| **I. За творы прозы, паэзіі і драматургіі (адна прэмія):** | |
| Лаўшуку Сцяпану Сцяпанавічу, члену-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, галоўнаму навуковаму супрацоўніку Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі | за кнігу «Праз церніі да брамы неўміручасці: Кандрат Крапіва і беларуская драматургія», апублікаваную ў 2016 г. |
| **За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць (адна прэмія):** | |
| Залётневу Алегу Барысавічу (аўтару музыкі), Макарэю Сяргею Віктаравічу (аўтару лібрэта і рэжысёру-пастаноўшчыку) і Сароку Рыгору Сямёнавічу (галоўнаму дырыжору і музычнаму кіраўніку) | за стварэнне рамантычнай оперы «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт» (2013 г.) |
| **За работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва (адна прэмія):** | |
| Галаку Уладзіміру Анатольевічу, мастацкаму кіраўніку Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў Рэспублікі Беларусь | за стварэнне і арганізацыю ў 2013 — 2016 гадах мінскіх форумаў вулічных тэатраў |
| **За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва (адна прэмія):** | |
| Прохараву Аляксандру Віктаравічу, скульптару, дэкану мастацкага факультэта ўстановы адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў» | за стварэнне помніка князю Ізяславу ў г. Заслаўе і скульптуры «Гарадскія шалі» на пл. Свабоды ў г. Мінску (2014 г.) |

| | |
|---|---|
| **За лепшы твор аб прафсаюзах (адна прэмія):** | |
| Вазміцелю Івану Канстанцінавічу, старшыні Віцебскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў і Мандрыку Івану Уладзіміравічу, прафесару кафедры гісторыі Беларусі ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава» | за кнігу «Очерки истории профсоюзов Витебщины», апублікаваную ў 2015 г. |
| **II. За актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных (адна прэмія):** | |
| Выхаванец Алене Аляксандраўне | дырэктару Палаца культуры адкрытага акцыянернага таварыства «Нафтан», г. Наваполацк |
| **III. За выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці (адна прэмія):** | |
| Заслужанаму аматарскаму калектыву Рэспублікі Беларусь тэатру танца «Прэм'ер-Спонайд» Палаца культуры культурна-спартыўнага комплексу адкрытага акцыянернага таварыства «Полацк-Шкловалакно» (кіраўнік Навіцкая Вераніка Мікалаеўна) | |
| **IV. У галіне журналістыкі (адна прэмія):** | |
| Пінюце Аліцыі Францаўне, галоўнаму рэдактару ўстановы «Рэдакция газеты «БЕЛАРУС-МТЗ ОБОЗРЕНИЕ» | за цыкл публікацый «Социальное партнерство во благо человека труда», апублікаваны ў газетах «БЕЛАРУС-МТЗ ОБОЗРЕНИЕ» ў 2012 — 2016 гадах і «Вестник профсоюза «БЕЛПРОФМАШ» у 2016 г. |

Грашовая ўзнагарода лаўрэатам індывідуальных прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2017 года ўстаноўлена ў памеры 2000,00 рублёў кожнаму, калектыўных прэмій за лепшы твор аб прафсаюзах, за музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць і за выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці — у памеры 4000,00 рублёў кожная.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Права — за аўтарам



*Фота Кастуся Дробава.*

Зразвіццём інфармацыйных тэхналогій усё больш актуальным становіцца пытанне абароны аўтарскага права. Саюз пісьменнікаў Беларусі прапанаваў унесці змены і дапаўненні ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб аўтарскім праве і сумежных правах». Адпаведны законапраект знаходзіцца ў Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу. Пра гэта распавяла першы намеснік старшыні СПБ Алена Стэльмах падчас сустрэчы ў Доме літаратара з вядучым спецыялістам упраўлення права і міжнародных дагавораў Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці Андрэем Лучанком і адвакатам Кірай Касьянавай.

Сёння ў грамадстве часта ўзнікаюць пытанні, датычныя парушэння аўтарскіх правоў: без згоды аўтараў іх творы друкуюцца ў скарачэнні, а то і перавыдаюцца. У розных інфармацыйных крыніцах, у тым ліку і ў інтэрнэце, фрагменты тэкстаў выкарыстоўваюцца без спасылкі на аўтара ці пад чужым імем. Знаходзяцца і тыя, хто асмельваецца «капіраваць» сюжэты, вобразы, імёны герояў ужо апублікаваных твораў іншых аўтараў. Падчас круглага стала на гэта звярнуў увагу старшыня СПБ Мікалай Чаргінец.

Кіра Касьянава зазначыла, што ў законапраекце прапануецца шматкроць зменшыць памер кампенсацыі за парушэнне аўтарскіх правоў — з 10 да 1 базавай велічыні. А гэта — непавага да творчасці пісьменніка, правы якога парушаны. Дарэчы, паняцце творчасці, упэўнена Кіра Уладзіміраўна, патрабуе сур'ёзнага асэнсавання, а ў законе яно ніяк не вызначана.

Сёння закон дапускае капіраванне твораў у хатніх умовах без згоды аўтараў, выканаўцаў і стваральнікаў фанаграм. Але разам з тым, падкрэсліў Андрэй Лучанок, законам прадугледжана і права аўтара на выплату ўзнагароджання за выкарыстанне яго твораў у асабістых мэтах. І выплачваць гэтае ўзнагароджанне павінны прадпрымальнікі, якія вырабляюць ці ўвозяць у нашу краіну ноўтбукі, камп'ютары, планшэты, флэшкі і г. д., тым больш што стаўкі ў нас даўно распрацаваны і зварот такіх тавараў даволі вялікі. Высокі і дапушчальны аб'ём цытавання, які прапануецца законам: 23 старонкі друкаванага тэксту (адзін аўтарскі аркуш)! А гэта ж можа быць не адзін твор, а некалькі. І ўсё будзе выкарыстоўвацца бясплатна, а аўтар нічога не атрымае?..

Пісьменніца Наталля Голубева прапанавала прызнаць аб'ектамі аўтарскага права тэму, адабраны, сістэматызаваны і сінтэзаваны аўтарам матэрыял твора, ідэалогію, вобразную сістэму, сюжэт, мову і загаловак. На думку Наталлі Аляксандраўны, закон не павінен дапускаць дэманстрацыю, абнародаванне і прапаганду ў сродках масавай інфармацыі твораў, прызнаных судовымі органамі не самастойнымі, а запазычанымі, створанымі на падставе перапрацоўкі чужых твораў. Твор, напісаны групай аўтараў, не можа быць абнародаваны як твор аднаго аўтара. Каб скараціць колькасць выпадкаў парушэння аўтарскага права, неабходна не толькі канкрэтызаваць паняцце творчасці, але і ўвесці ў закон тэрмін «плагіят».

Свае прапановы па ўяўленні змен і дапаўненняў у закон СПБ накіроўвае ў Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Яна ЯВІЧ**

## ЛіМ-каляндар

**10 красавіка** — 110 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Матусевіча (1907 — 1985), беларускага акцёра, народнага артыста БССР.

**10 красавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Лагуна (1922 — 2004), беларускага жывапісца.

**11 красавіка** — 75 гадоў з дня нараджэння Пятра Шарыпы (1942 — 2013), беларускага жывапісца.

**12 красавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Яўгена Пакаташкіна (1937 — 1994), беларускага графіка.

**14 красавіка** 50 гадоў адзначае Алена Масла, беларуская пісьменніца-казачніца.

**15 красавіка** — 115 гадоў з дня нараджэння Міколы Нікановіча (1902 — 1944), беларускага празаіка, перакладчыка.

**15 красавіка** 60 гадоў спаўняецца Ларысе Зуевай, беларускаму мастаку дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**15 красавіка** 60-годдзе адзначае Уладзімір Панцялееў, беларускі скульптар.

**16 красавіка** — 185 гадоў з дня нараджэння Альфрэда Ізідара Ромера (1832 — 1897), жывапісца, графіка, медальера, мастацтвазнаўца, этнографа. Вывучаў народнае прыкладное мастацтва Беларусі.

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**14 красавіка** — *на Дзень беларускай літаратуры, прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, у гімназію № 7. Пачатак у 12.10.*

**15 красавіка** — *у літаратурны клуб «Гасцінец» пры Мінскім дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы кулінарыі з удзелам паэтаў Уладзіміра Скарынкіна і Ганны Чумаковай. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**17 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтам, ветэранам вайны Мікалаем Івановым у гімназію № 7. Пачатак у 9.35.*

**18 красавіка** — *на Дзень рускай літаратуры ў гімназію № 7. Пачатак у 11.10.*

**18 красавіка** — *на святочнае пасяджэнне літаратурнай гасцёўні «Верасок» пры дзіцячай бібліятэцы № 16. Ганаровы госць — пісьменнік і выдавец, юбіляр Міхаіл Дзеравянка. Пачатак у 12.30.*

**19 красавіка** — *на творчую сустрэчу з празаікам Наталіяй Касцючэнка ў гімназію № 7. Пачатак у 14.15.*

**19 красавіка** — *у студыю юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**19 красавіка** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы на свята беларускай паэзіі і песні. Пачатак у 17.30.*

**20 красавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Тулінавым у гімназію № 7. Пачатак у 11.10.*

**20 красавіка** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 на творчую сустрэчу з паэтам і перакладчыкам Міколам Чарняўскім. Пачатак у 17.30.*

**21 красавіка** — *на свята кнігі, прысвечанае 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, у гімназію № 7. Пачатак у 11.10.*

**21 красавіка** — *на творчую сустрэчу з расійскім пісьменнікам Міхаілам Даньшовым у Мемарыяльную залу Дома літаратара. Пачатак у 14.30.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**18 красавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Кацярынай Хадасевіч-Лісавой «Падарожжа ў Краіну казак» у дзіцячую бібліятэку г. Маладзечна. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**18 красавіка** — *на імпрэзу «Брэстчына паэтычная» ў кінатэатр «Беларусь». Пачатак а 12-й гадзіне.*

**19 красавіка** — *на сустрэчу з пісьменнікамі Таццянай Дземідовіч і Анатолем Бензеруком у Жабінкоўскую раённую бібліятэку. Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**18 красавіка** — *на творчыя сустрэчы з дзіцячым пісьменнікам Сяргеем Трафімавым «Этот удивительный мир» у віцебскую бібліятэку імя Е. Лось. Пачатак аб 11-й, а 12-й, а 13-й гадзінах.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**18 красавіка** — *на сустрэчу з пісьменнікамі Віктарам Кудлачовым і Ірынай Фамянковай «Азбука культуры: стихи и рассказы» ў актавую залу гродзенскай СШ № 3. Пачатак у 12.40.*

**18 красавіка** — *на свята грамадзянскай паэзіі «Пад мірным небам Беларусі» з удзелам паэтаў Браніслава Ермашкевіча, Анатоля Апанасевіча і Дзмітрыя Радзівончыка ў Гродзенскі гуманітарны каледж. Пачатак у 13.30.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**17 красавіка** — *на сустрэчы пісьменнікаў і курсантаў Магілёўскага інстытута МУС на мемарыяльным комплексе «Вышыня Уладзімірава» каля в. Гаі Магілёўскага раёна. Час правядзення: 10.00 — 17.00.*

**19 красавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Віктарам Арцем'евым у МДУ імя А. А. Куляшова. Пачатак у 12.30.*

**20 красавіка** — *на літаратурную вечарыну "Янка Купала і Якуб Колас — летапісцы свайго народа" ў Быхаўскую цэнтральную раённую бібліятэку. Пачатак а 13-й гадзіне.*

## ТАЛЕНТ — ГЭТА ПРАЦА І ПРАЦАЗДОЛЬНАСЦЬ

«Дзіўная і незвычайная ўзнікае сувязь слоў у сказе пры фасфарычнай успышцы рыфмы», — пісаў В. Аксёнаў у кнізе «Пошукі жанру». «Лірычны верш — гэта заўсёды валявы акт, заклінанне, “змова”, насланнё, чарадзейства», — падкрэсліваў тэаратык літаратуры Р. Д. Гачаў у кнізе «Змястоўнасць мастацкіх форм. Эпас. Лірыка. Тэатр». Стварэнне мастацкай рэчы — гэта заўсёды яркі ўчынак, загадка і адгадка адначасна. Споведзь уласнага сэрца. Трывога разбуджанага пачуцця. Голас чалавечага сумлення. Тэмы могуць быць самыя незвычайныя, пішуць пра самае рознае, сення, як і ранней, пра буйнае і дробнае.

На першым пасля з'езда пасяджэнні Прэзідыума ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» зацверджаны новы, абноўлены на 90% склад прыёмнай камісіі. Патрабаванні самыя строгія. Творчасць кожнага мастака вывучаецца асобна. Заяў на прыём у ГА «СПБ» надзвычай шмат. На апошнім пасяджэнні Прэзідыума ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў новыя творцы.

**Таццяна Цвірко**, дызайнер аднаго з прадпрыемстваў, паэтэса. Аўтар зборніка лірыкі з паэтычнай назвай «Ясачка долі маёй». Лірыка яе па-жаноцку шчымлівая, кранальная. Ёсць у вершах напружанасць да трагедыйнасці, шчырасць і спавядальнасць. Тая споведзь, што называецца, калі слова — толькі сродак самараскрыцця, а ў сэрцы яшчэ шмат нявыказанага.

Краязнаўца **Уладзіслаў Цыдзік** з кнігай «Зачараваны Беларуссю» зладзіў не адну сотню прэзентацый, аб'ехаў большую частку роднага краю, зазіраючы ў самыя аддаленыя куточкі. Не адзін дзесятак кніг мае на сваім рахунку **Уладзімір Ліхадзедаў**. Кнігі краязнаўчага характару, пра нашых сучаснікаў і выдатных людзей мінулага, пра нашы пасяленні, гарады і мястэчкі, архітэктуру.

**Казлоўскі Руслан Канстанцінавіч** — вядомы ў Гродне літаратуразнаўца, празаік, выкладчык універсітэта. У НАН Беларусі працуе літаратуразнаўца **Людміла Вераб'ёва**, аўтар кнігі «Душа слова». Даследчыца імкнецца паказаць кардыяграму чалавечых адчуванняў праз сілу слова.

У паэтычным зборніку **Кацярыны Роўда** «Водар белага наліву» — пошукі нашай сучасніцы свайго месца ў агульным «суработніцтве», жаданне прынесці людзям як мага больш карысці, а шлях гэты яна бачыць у адным — сцвярджэнне маралі, якую выпрацаваў стагоддзямі беларускі народ, замацаванне ў нашай паўсядзённасці шчырасці і справядлівасці. Паэтцы 29 гадоў, яна бібліятэкар.

Прынята ў СПБ празаік **Алена Харашэвіч. Марына Наследнікава (Пашук)** працуе ў выдавецтве Свята-Елізавецінскага манастыра, лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. **Таццяна Гулевіч (Прышчэпава)** выдатна заявіла пра сябе ў дзіцячай паэзіі, што выявілася, напрыклад, у кнізе «Апельсінавы настрой». З Віцебшчыны прынята ў Саюз пісьменнікаў **Святлана Гарбачова (Якубоўская)**. Выступае ў прозе і паэзіі, яе кнігі на беларускай мове «Палітра лёсу» і «Вясёлкавыя сны» заваявалі прызнанне шматлікіх чытачоў.

Большасць прынятых у члены ГА «СПБ» пішуць па-беларуску, ёсць і тыя, што пішуць на рускай мове. Многія, каго прынялі ў Саюз пісьменнікаў, яшчэ зусім маладыя, творчы патэнцыял іх толькі-толькі разгортваецца.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ, старшыня прыёмнай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# УСЕ КОЛЕРЫ ДЗЯЦІНСТВА

## «Вясёлка» святкуе юбілей



**У красавіку 2017 года спаўняецца 60 гадоў славутаму дзіцячаму часопісу «Вясёлка». Сённяшні тыраж аўтарытэтнага дзіцячага выдання сведчыць: яго чытаюць ва ўсіх кутках Беларусі. І ў гарадскіх, і ў сельскіх школах можна знайсці дзетак, якія штомесяц гартаюць свой родны часопіс. На працягу болей як паўстагоддзя галоўнымі рэдактарамі часопіса «Вясёлка» працавалі паэты Васіль Вітка, Еўдакія Лось, Анатоль Грачанікаў, супрацоўнікамі — пісьменікі Алесь Пальчэўскі, Сяргей Грахоўскі, Мікола Чарняўскі, Мікола Маляўка, Алена Масла і шмат хто яшчэ. Аўтар першай вокладкі — народны мастак Беларусі Раіса Кудрэвіч. Слаўная гісторыя любімага беларускімі дзецьмі выдання прадаўжаецца. З пытаннем пра тое, як збіраюцца адзначыць юбілей «вясёлкаўцы», мы звярнуліся да яе сённяшняга галоўнага рэдактара — лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сцяпанавіча Ліпскага (дарэчы, на гэтай пасадзе ён з 1978 года), і вось што пачулі ў адказ:**

— Правядзём усебеларускае юбілейнае свята дзяцей. Яно пройдзе 20 красавіка. Праграма будзе досыць насычанай. Мы актыўна рыхтуемся. І не толькі дзеля таго, каб прадставіць часопіс. А з мэтай пагаварыць пра праблемы і клопаты дзіцячай літаратурна-мастацкай перыёдыкі, пра дзіцячае чытанне, пра выхаванне падрастаючага пакалення. Да гэтай даты і адпаведна да згаданага свята павінны ўбачыць свет дзве кнігі — зборнік выбраных твораў «Вясёлка» (гэта значыць тое самае лепшае, самае цікавае, што надрукавана ў розныя гады ў часопісе) і мая казка-аповесць «Дабрадзей для ўсіх дзяцей» (у якой я распавядаю пра правы, абавязкі і пра Радзіму Беларусь). Спадзяюся, што Белтэлерадыёкампанія падрыхтуе фільм пра гісторыю, творчую працу «Вясёлкі». Нам ёсць што расказаць, ды, пэўна, і ў кінадакументальным, тэлевізійным архіве шмат што знойдзецца. Удзячны многім перыядычным выданням, якія адгукнуліся і адгукаюцца на наш юбілей.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, а чаму б не зладзіць адмысловую навукова-практычную канферэнцыю па гісторыі часопіса?..**

— Ідэя прымальная. І ў нас, дарэчы, такая задумка ёсць. Але ж, безумоўна, мы не адужаем усё адны. Добра было б, каб да рэалізацыі гэтай ідэі падключыліся ці Беларускі педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка ці Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Юбілей жа будзе доўжыцца цэлы год. Шмат хто з навукоўцаў досыць уважлівы да старонак часопіса. Адна толькі літаратуразнаўца Ірына Буторына напісала некалькі прац на гэтую тэму. Выдала кнігу, прысвечаную «Вясёлцы». І зараз у педагагічным універсітэце Ірына Буторына дасведчана і аргументавана спрыяе прапагандзе здабыткаў і нашага дзіцячага выдання, і сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры ўвогуле.




**— А мо яшчэ ў школах краіны правесці ўрок па часопісе «Вясёлка»?..**

— Фактычна нешта падобнае даўно робіцца нашым невялікім калектывам, з ініцыятывы нашых пазаштатных аўтараў. Толькі летась я асабіста пабываў у дзясятках школ гарадоў і вёсак краіны. Аб'ехаў усе вобласці краіны. Паверце, «вясёлкаўцы» самі ідуць да чытача, не шкадуюць ні сіл, ні часу. Жывы кантакт, жывыя стасункі шмат значаць… Дзеці бачаць, хто стаіць за напісаным. Мо таму і такая папулярнасць у часопіса, мо таму многія нашы ідэі падаюць на ўрадлівую глебу. Да ўсяго заўважу, што мы актыўна кантактуем з бацькамі, прыслухоўваемся да парад па рэалізацыі розных пазнавальных праектаў. Таму і сябруем з тэатрамі, музеямі, універсітэтамі, рознымі аўтарытэтнымі міжнароднымі арганізацыямі.

**— Што ж, добрага юбілею і новых чытачоў «Вясёлцы»!**

— А яшчэ і часопісу «Буся» пажадайце новых чытачоў… «Буся» — часопіс для тых, хто яшчэ не “дарос” да «Вясёлкі». Мы вельмі апякуемся гэтым сваім новым выданнем. Хацелася б, каб грамадства, інстытуты ўлады на розных узроўнях звярнулі ўвагу на нашу «Бусю», на той унікальны прыклад, калі і сам часопіс «Вясёлка» не просіць датацыйных сродкаў, і яшчэ адно выданне на свае плечы ўскляў.

**— Так, Уладзімір Сцяпанавіч, і «Бусі» таксама жадаю новых чытачоў!**

**Гутарыў Мікола БЕРЛЕЖ**

# «УМЕЦЬ ЧЫТАЦЬ — ВЯЛІКАЯ СПРАВА»

За 60 гадоў чытачы «Вясёлкі», дашкольнікі і малодшыя школьнікі, атрымалі 720 нумароў — цэлая бібліятэка дзіцячага чытання. І як напачатку, так і цяпер часопіс вучыць любіць Айчыну, шанаваць родную мову, паважаць старэйшых, прывівае прагу да ведаў. Нездарма Янка Маўр вітаў першых чытачоў на першай старонцы часопіса словамі-пажаданнямі: «Дарагія маленькія сябры! Вось і да вас прыйшоў новы часопіс. Знаёмцеся з ім, чытайце і перачытвайце, сябруйце з ім — і вы ўбачыце, што ён можа быць вашым добрым, цікавым і вясёлым таварышам. Калі вы з ім пасябруеце, то неўзабаве адчуеце, што вам лягчэй стала вучыцца. А як зацікавіцеся яшчэ другімі кнігамі, дык пяцёркі так і пасыплюцца ў вашы сумкі. Гэта я добра ведаю сам па сабе». Пакінулі свае цёплыя прывітальныя словы і пажаданні першаму нумару адказны рэдактар часопіса «Мурзилка» Л. Вінаградская і літоўскі дзіцячы часопіс «*Genys*» («Дзяцел»).

Адкрываў часопіс верш Сяргея Грахоўскага «Вясёлка»:

*Сёння раніцаю ліў першы дождж з громам,*
*Праляцелі жураўлі і над нашым домам.*
*Сёння з вулля першы раз вылецела пчолка,*
*Апусцілася да нас першая вясёлка.*

Нумар выйшаў у красавіку. Заснавальнікам часопіса быў ЦК ЛКСМБ. Таму далей, як даніну таму часу, мы бачым верш пра маладога Ульянава «Красавік» Артура Вольскага і апавяданне «Дарагі падарунак» Васіля Хомчанкі. У духу таго часу і апавяданне Івана Шуцько «Юркава дапамога» з прыгожымі малюнкамі Ю. Пучынскага…




Маленькім чытачам прысвечана апавяданне «Петрусёк вучыцца чытаць» Усевалада Краўчанкі, з малюнкамі У. Сяржантава. Хлопчык Пятрусь так хацеў навучыцца чытаць, што авалодаў гэтай навукай ужо ў пяць гадоў, па буквару старэйшага брата, другакласніка Міхася. І калі маці падаравала яму цікавую кніжку з малюнкамі, ён з гонарам прачытаў яе сам, без бацькоўскай дапамогі. Таму што: «…Умець чытаць — вялікая справа!».

Надаў увагі часопіс і народнаму фальклору. Кемлівасці і справядлівасці вучыць мудрая беларуская народная казка "Як лісіца ваўка судзіла" ў апрацоўцы А. Якімовіча, малюнкі М. Бельскага. Напрыканцы нумара чытаем вершы Васіля Карпечанкі «Мая МТС» і «Жаўрук», Генадзя Шмані «Шарачок» пра зайку. А таксама караценькія гісторыі «Вясёлыя выпадкі».

Першы нумар часопіса для малодшых школьнікаў «Вясёлка» выйшаў тыражом 15 тысяч, яго вокладку ўпрыгожваў малюнак Раісы Кудрэвіч «Атрымалі новы часопіс».

«Вясёлка» ўзнагароджана Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца пераможцам Нацыянальнага конкурсу «Залатая Ліцера» 2004, 2007, 2010 гадоў.

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# «Анатомія» онімаў:

## гаваркія прозвішчы ў прозе сучасных пісьменнікаў

**Насычаная драматычнымі падзеямі айчынная гісторыя ХХ стагоддзя стала прадметам мастацкага асэнсавання ў гістарычнай прозе берасцейскіх пісьменнікаў Міколы Сянкевіча, Анатоля Крэйдзіча, Леаніда Філатава, Клаўдзіі Каліны, Уладзіміра Дамашэвіча, Васіля Жуковіча, Уладзіміра Гніламёдава, Алеся Наварыча. У цэнтры мастацкага свету, створанага ў раманах, аповесцях і апавяданнях, — поўныя драматызму і напружання падзеі Першай і Другой сусветных войнаў, а таксама цяжкія дзесяцігоддзі пасляваеннага аднаўлення краіны, гады савецкага застою. Ствараючы карціны мінулага нашай зямлі, пісьменнікі ўмела выкарыстоўваюць прагматычны зарад і вобразна-выяўленчыя магчымасці такой часткі антрапанімікону, як прозвішчы.**



### ПРОЗВІШЧЫ-ЯРЛЫКІ

Адзначым істотную розніцу зместу і функцый прозвішчаў у жыцці і ў мастацкай літаратуры. У сучасным грамадстве праяўляецца тэндэнцыя да забыцця, «сцірання» ўнутранай формы прозвішча, якое выконвае найперш функцыю ідэнтыфікацыі асобы як члена соцыуму. Што да мастацкай літаратуры, то, ствараючы найменні персанажаў, пісьменнік імкнецца «ўваскрасіць» унутраную форму оніма, падкрэсліць яго сувязь з паняццем, якое легла ў аснову прозвішча. У прозвішчах адлюстроўваецца бачанне пісьменнікам сваіх персанажаў, іх характару, дзеянняў, учынкаў.

Найбольш ярка і просталінейна функцыя мастацка-вобразнай характарыстыкі персанажа выконваецца ***прамагаваркімі прозвішчамі***. Маючы празрыстую ўнутраную форму, прозвішчы гэтага тыпу характарызуюць персанажаў непасрэдна, просталінейна, з'яўляючыся свайго роду этыкеткамі, ярлыкамі, якія прадвызначаюць характар успрымання і ацэнкі чытачом літаратурнага героя.

Прамагаваркія прозвішчы ўтрымліваюць інфармацыю пра маральныя якасці персанажаў. Напрыклад, прозвішча ***Харашун*** асацыятыўна звязваецца са значэннем прыметніка ***харошы*** — *'які вызначаецца станоўчымі маральнымі, душэўнымі якасцямі'* (тут і далей значэнне слова падаецца паводле выдання: «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы», Мінск, 1996). Найменне персанажа навелы Г. Марчука «Апека» цалкам адпавядае характару гераіні, даючы станоўчую ацэнку незласлівай, дабрадушнай, ціхай, непрыкметнай жанчыне. *«Соня нікому не скардзілася на сваю долю, на Бога, не зайздросціла ніколі ўдачлівым суседзям, іх заможнасці. Адна такая на ўсё сяло была Соня, што не імкнулася любымі сродкамі стаць багатай, не гналася за капейкай»*. Лёс Соні Харашун — прыклад жыцця бязгрэшнага чалавека, праведніка, на якім, як вядома, трымаецца свет.

Прозвішча ***Нядбайла***, якое належыць герою аповесці Г. Марчука «Паляшук», выклікае асацыяцыі са словам нядбайны — *'які абыякава, нядобрасумленна адносіцца да сваіх абавязкаў, спраў, лянівы'*. Старшыня калгаса ***Нядбайла*** запусціў гаспадарку, не клапоціцца пра аднавяскоўцаў. Прозвішча персанажа дапамагае адцяніць ідэю твора.

У прозвішчы Тацяна ***Чудайкіна*** (персанаж рамана У. Гніламёдава «Расія») адлюстроўваецца характар смешнага, безгаспадарлівага, легкадумнага дзівака: *«Жыў Тацянка бедна, у яго гаспадарцы не было ні плуга, ні каня. Сваё прозвішча апраўдваў у поўнай меры. Меў, напрыклад, звычай хадзіць у Борскім па базары са сваёй лыжкай — каштаваць смятану, тварог. Купляць не купляе, толькі прыцэньваецца. Гандляркі ведалі Таццянку — праганялі»*. Заканчваецца «бліскучая» кар'ера Чудайкіна пасадай пастуха — «старшыні» калгаснага статка.

Сэнс прозвішча героя рамана У. Гніламёдава «Вяртанне» ***Гадаў*** асацыятыўна звязваецца са значэннямі слова ***гад*** 'агідны чалавек, гадзіна'. Прозвішча-паэтонім характарызуе беспрынцыпнага жандара, які служыў любой уладзе: *«**Гадаў** па-ранейшаму практыкаваў па "сыскному дзелу" і цаніўся ў галіне палітычнага вышуку як выдатны спецыяліст з аграмадным, яшчэ царскім стажам і вопытам. Яго кваліфікаванымі паслугамі паспелі пакарыстацца Дзянікін і Урангель, балканскія краіны, Германія, і цяпер чарга дайшла да Польшчы, дзе ў ім мелі таксама немалую, па ўсім відаць, патрэбу»*.

Гаваркое прозвішча можа быць замалёўкай знешнасці чалавека. Так, сэнс прозвішча героя рамана У. Гніламёдава «Расія» ***Вярзілін*** асацыятыўна звязваецца са значэннем рускага назоўніка *верзила* — 'высокі чалавек'. Унутраная форма прозвішча актуалізуецца ў аўтарскіх апісаннях знешнасці багатыра: *«Тут жа стаяў той самы **мажны мацак** з чорнай кучаравай барадой.... Звалі яго Спірыдон **Вярзілін**»*.

### ПРОЗВІШЧА-НАКАНАВАННЕ

***Ускоснагаваркія прозвішчы*** не надзелены такім прамым, відавочным характарыстычным зарадам. Іх значнасць спасцігаецца праз глыбокае асэнсаванне мастацкіх характараў, створаных пісьменнікам.

Напрыклад, прозвішча галоўнага героя рамана Г. Марчука «Кветкі правінцыі» — ***Доля***. У аснове паэтоніма — назва аднаго з найстаражытнейшых уяўленняў-персаніфікацый, што міфалагічным спосабам тлумачыць прадвызначанасць чалавечага лёсу. Жыццё Адася Долі цяжкае, поўнае розных выпрабаванняў, перашкод, на шляху хлопца больш страт, слёз, нягод, чым радасці, смеху. Часам Адасю здавалася, што чалавек нічога не можа змяніць у жыцці.

Прозвішча галоўных персанажаў раманаў Г. Марчука «Крык на хутары» і «Прызнанне ў забойстве» нясе важную сэнсавую нагрузку. Паэтонім ***Лятун*** можна назваць прадказальнікам лёсу герояў. Кожны з ***Летуноў*** нагадвае перакаці-поле — расліну, што лётае, блукае па свеце ў пошуках свайго месца пад сонцам. Змітро ***Лятун***, каб набыць сваю зямлю, праходзіць праз шматлікія жыццёвыя выпрабаванні: блукае з сям'ёй па галоднай Расіі, працуе падзёншчыкам у многіх гаспадароў, страчвае на дарогах жыцця жонку і сына. Лёс перакаці-поля не абмінае і дзяцей Летуна. Ігнат пакідае бацькаў дом, уступіўшы на шлях барацьбы за Бацькаўшчыну і перажыўшы на гэтым шляху страшныя выпрабаванні ў сумна вядомым лагеры ў Бярозе. Мікіта ў пошуках сэнсу жыцця блукае па свеце і, пражыўшы ў Аргенціне і Канадзе, вяртаецца на Палессе ў якасці праваслаўнага святара. У вобразе ***Летуноў*** выражаны пошукі беларусамі свайго лёсу, долі, Бацькаўшчыны. Змітро Лятун гаворыць: *«Ды за мой век пяць радзім змянілася»*.

Гаваркім з'яўляецца прозвішча галоўнага героя рамана Г. Марчука «Без ангелаў» Сяргея ***Бяды***. Яно можа ўспрымацца як жорсткае наканаванне чалавеку гараваць, пакутаваць. Чытач назірае за фарміраваннем светапогляду і маральных якасцяў героя твора — сына савецкай эпохі. Спярша Сяргей адзначае: *«З юнацтва я шчыра і аддана верыў нашым кіраўнікам, друкаванае слова выклікала павагу, поўны давер. Перадавіца "Праўды" замяніла мне Біблію. Я прымаў усё на веру, не задумваючыся»*. Пісьменнік з надзвычайнай дакладнасцю фіксуе разлад, расчараванне ў жыцці *«правільнага, ідэйнага савецкага чалавека»*. Страціўшы ідэалы, герой не змог знайсці свайго месца ў жыцці, заблытаўся ў ніцых часу. Характарыстычнае прозвішча ***Бяда*** — свайго роду прадказанне трагічнага лёсу не толькі аднаго чалавека, але і цэлага пакалення, духоўна агаленага, атручанага ідэалогіяй, скалечанага нянавісцю і злосцю.

Сэнс прозвішча гераінь аповесці М. Сянкевіча «Груша» ***Звягічаў*** асацыятыўна звязваецца са значэннямі назоўніка ***звяга*** — *'назойлівае прыставанне з просьбамі, напамінамі, патрабаваннямі'* і прыметніка ***звяглівы*** — *'які дакучае назойлівымі просьбамі, напамінаннямі, патрабаваннямі'*. Прозвішча персанажаў твора адпавядае характару гераінь, даючы адмоўную ацэнку зайздрослівым, нядобразычлівым жанчынам, якія прысвяцілі жыццё марнай барацьбе за пакой-прыбіральню ў камунальнай кватэры і за прыгажуню-грушу, што расла на «агульнай» тэрыторыі суседзяў.

Персанаж апавядання А. Крэйдзіча «Перон для беспрытульных» мае прозвішча ***Карчэўскі***, асацыятыўна звязанае з пераносным значэннем дзеяслова ***карчаваць*** — *'выкараняць, вынішчаць без астатку'*. Лейтэнант міліцыі, выконваючы прафесійныя абавязкі, ловіць «тарбешнікаў» — дробных гандляроў-чаўнакоў. Выконваючы волю начальства, ***Карчэўскі*** з часам *выкарчоўвае, знішчае* ў сабе чалавечыя пачуцці — спачуванне, шкадаванне, павагу да сяброў. Баючыся даносу калегі, ***Карчэўскі*** так і не змог адпусціць «злачынцу» — былую аднакласніцу, сваё першае каханне: *«эмоцыі, чые б яны ні былі, мала хвалявалі **Карчэўскага**»*.

### «МІФАЛАГІЧНЫЯ» ПРОЗВІШЧЫ

Сэнсавая нагрузка асобных ***прозвішчаў-паэтонімаў*** бывае звязана са старажытнымі міфалагічнымі ўяўленнямі пра Сусвет і чалавека. Так, прозвішча адной з галоўных гераінь аповесці А. Наварыча «Памалюся Перуну, пакланюся Вялесу…» Лены ***Заранок*** асацыюецца і з паняццем ***Зары-Зараніцы*** — старажытнай персаніфікацыяй зары, памочніцы Бога, Сонца, блізкай людзям, учынкай да іх просьбаў, і з прыроднай з'явай ***зарой***, якая на працягу стагоддзяў здзіўляе, захапляе, пабуджае фантазію, прымушае думаць пра высокае, боскае, нябеснае, і з ***Зарніцай*** — адной з народных назваў Венеры, зоркі-апякункі закаханых (тут і далей тлумачэнне прыводзіцца паводле: «Беларуская міфалогія: энцыклап. слоўнік, Мінск, 2006). Лена — дзяўчына, выхаваная ў сялянскай сям'і, жыве па спрадвечных нормах маралі, прымушае іншых змяніць легкадумнае, безадказнае стаўленне да жыцця і людзей.

Прыкладам ускоснагаваркога оніма — прозвішча галоўнай гераіні аповесці К. Каліны «Бурштынавыя пацеркі». У аснове прозвішча Марыі ***Зямелькі*** — назва «ўсеагульнай крыніцы жыцця, маці ўсяго жывога, у тым ліку і чалавека. Уяўленні аб ***зямлі*** цесна звязаныя з паняццем роду, радзімы, краіны». З глыбокай старажытнасці ў свядомасці нашых продкаў «зямля з'яўлялася крытэрыем чалавечай маральнасці». Марыя ***Зямелька***, што паходзіць з роду ***земля***робаў, прытрымліваецца ў жыцці спрадвечных народных маральных законаў і нормаў. Руплівая працуе, імкнучыся стаць музыкантам, удзельнічае ў самадзейных канцэртах для жыхароў разбуранага пасляваеннага горада і параненых вайскоўцаў, нягледзячы на слабое здароўе, вольны час прысвячае догляду «цяжкіх» хворых у шпіталі.

### ПРОЗВІШЧЫ З ПРАТАТЫПАМІ

У аповесці В. Жуковіча «Як адна вясна…» выкарыстаны прыём трансфармацыі прозвішчаў рэальных асоб. Так, у прозвішчы добрага, спагадлівага, але строгага куратара Андрэя Андрэевіча ***Каленіка***, які стаў для студэнтаў сапраўдным Настаўнікам не толькі літаратуры, але і жыцця, угадваецца прозвішча Уладзіміра Андрэевіча ***Калесніка***. Як апісанне знешнасці, так і згадкі пра заняткі выкладчыка падказваюць, што прататыпам персанажа аповесці з'яўляецца вядомы берасцейскі літаратуразнаўца і педагог. Прозвішча выкладчыцы рускага фальклору, прынцыповага партыйца Яніны Францаўны ***Бляўскай*** утворана шляхам падбору асновы з антанімічным значэннем да прозвішча прататыпа персанажа твора — выкладчыка Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута Ядвігі Антонаўны ***Чарняўскай***.

Побач з прыёмам адпаведнасці семантыкі прозвішча сутнасці створанага мастацкага вобраза пісьменнікі выкарыстоўваюць прыём кантрасту, калі сэнс оніма супрацьлеглы характару героя. Так, ***сокал*** у беларускай традыцыйнай культуры сімвалізуе мужчынскі пачатак, мужнасць. Зусім не смелым, а бязвольным, бесхарактарным з'яўляецца герой рамана Г. Марчука «Сава Дым і яго палюбоўніцы» Міхась ***Сокал***. Іранічны эфект ва ўжыванні антрапоніма ствараецца за кошт аманімічнага каламбура. Аўтар абыгрывае семантыку вербальна не выражанага этымона прозвішча ***Сокал***, які падказваецца ўжытым у складзе параўнальнага звароту назоўнікам курыца і выкарыстаным у кантэксце твора найменнем радзімы ***Сокала***, якое таксама з'яўляецца онімам «птушынага» паходжання: *«Міхась **Сокал** вось ужо дзесяць гадоў на трактарным заводзе ў Мінску і расхвальваў гэтае сталічнае жыццё, як **курыца** сваё седала»*.

Як бачым, у гістарычнай прозе пісьменнікаў-берасцейцаў прозвішчы-паэтонімы выяўляюць мастацкую і грамадзянскую пазіцыю пісьменнікаў, іх стаўленне да герояў, да пэўнага тыпу асобы, да жыццёвага факта, падзеі, з'явы.

**Святлана БУТ-ГУСАІМ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# ПРЫВІТАННЕ, МАМА МУ!

**Шведскія казкі ўжо даўно пасяліліся на палічках маленькіх беларусаў. «Малы і Карлсан-з-даху», «Піпі Доўгаяпанчоха», «Цудоўнае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі» — вось толькі самы пачатак пазнавальнага спіса. Гэтым разам Беларусь сустракае кнігу шведскай пісьменніцы Юі Вісландэр «Хутчэй, Мама Му!».**




Прэзентацыю кнігі «Хутчэй, Мама Му!» зладзілі ў Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна. У зале сабраліся асноўныя чытачы серыі шведскіх казак — бацькі ды маленькія. На імпрэзу завітаў Магнус Сэтэрберг, другі сакратар Пасольства Каралеўства Швецыя ў Мінску. Спадар Сэтэрберг скіраваў увагу на тое, што два асобнікі кнігі падаравалі бібліятэцы імя Пушкіна, каб кожны зацікаўлены беларус мог пазнаёміцца з прыгодамі герояў Юі Вісландэр.

— Мне падабаецца быць у Беларусі. Люблю прэзентацыі, дзяцей, святочную атмасферу: для маёй радзімы такі фармат незвычайны, — заўважае Юя Вісландэр, ганаровы член Шведскай акадэміі дзіцячай кнігі. — У Швецыі ўсё зусім па-іншаму: толькі за гэты год у нас выйшла 2400 дзіцячых кніг. У Стакгольме на прэзентацыю завітала шмат людзей, але не было ні чытанняў, ні тэатра, толькі падпісалі кніжку ды разышліся.

У Мінску зладзілі сапраўдную дзіцячую імпрэзу. Разам з пісьменніцай вывучалі шведскія словы (зараз маленькія беларусы добра ведаюць, як па-шведску гучыць «прывітанне» ды нават «ветразь»), слухалі пачатак казкі ў арыгінале, майстравалі папяровыя караблікі. Сюрпрызам стала тэатральная пастаноўка ад партатыўнага вандроўнага лялечнага тэатра «Лямцавая батлейка» па матывах кнігі «Хутчэй, Мама Му!». Гэта не першая кніга шведскай пісьменніцы, якую прадстаўляе «Лямцавая батлейка»: лялечныя карова ды крумкач ужо маюць пэўны досвед ва ўзаемадзеянні з беларускай аўдыторыяй. Спектакль у пастаноўцы Веранікі Фаміной і Бэлы Кавальковай прайшоў пад музычнае суправаджэнне ад Леаніда Паўлёнка. Юя Вісландэр была рада пабачыць прыгоды сваіх герояў: «Мне вельмі падабаецца тэатр, ён дужа цудоўны! Крута, што дзеці могуць не толькі чытаць кніжку, але і ўжываю камунікаваць з акцёрамі».

— Першы твор Юі Вісландэр, які я пераклала 8 год назад, называўся «Малы і мядзведзік»: гісторыя пра хлопчыка, што кожны вечар перад сном распавядае свайму медзведзяняці пра падзеі дня, — кажа перакладчыца кнігі «Хутчэй, Мама Му!» на беларускую мову Надзея Кандрусевіч. — Тады Юя першы раз прыехала на прэзентацыю ў Беларусь. Мы разнаёміліся, пасябравалі, і я пачала перакладаць наступную серыю яе дзіцячых кніг. Так маленькія беларусы даведаліся, хто такая Мама Му.

«Хутчэй, Мама Му!» — шостая кніга серыі пра вясёлую карову па мянушцы Мама Му і яе сябра Крумкача, якая выйшла ў нашай краіне на беларускай мове. Уся серыя складаецца з 10 кніг, перакладзены больш як на 30 моваў свету. Мама Му і Крумкач заўсёды знаходзяць прыгоды, і нават звычайныя сітуацыі для іх ператвараюцца ў незвычайныя. Дзеці любяць чытаць кнігі пра Маму Му: акрамя цікавага тэксту, іх вабяць аздобленыя прыгожымі малюнкамі старонкі. Аўтар малюнкаў — знакаміты шведскі ілюстратар Свэн Нурдквіст, лаўрэат літаратурнай прэміі Астрыд Ліндгрэн. Дзякуючы працы Свэна Нурдквіста, ад кнігі не адцягнуць нават тых дзяцей, што пакуль самастойна прачытаць казку не могуць.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Шэсць пытанняў для Юі Вісландэр

**Гэтая шведская пісьменніца займела процьму фанатаў сярод чытачоў, якія пакуль што не ў стане самі набываць кнігі. Дзеці з захапленнем прынялі гісторыю пра Маму Му, Крумкача і Раство. Цяпер у іх рукі трапіла новая кніга — «Хутчэй, Мама Му!». Гэта шостая гісторыя ў серыі пра Маму Му, у той час як для Беларусі — другая (дзякуючы перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч). Новая кніга сталася нагодай для чарговых сустрэч з чытачом, і адна з іх мела «шырокі» фармат — дыскусія пра тое, як напісаць дзіцячую кнігу. Зрэшты, пытанняў аказалася многа больш…**

## ЧАМУ ДЗІЦЯЧАЯ?

Калі ў мяне нарадзіліся дзеці, мы жылі ў месцы, дзе было ўвогуле шмат дзяцей. І ўвечары мы займаліся вось чым: бралі чысты ліст паперы, складалі яго ў маленькую кніжку, яе прыносілі дзеткам і пыталіся: якую казку будзем чытаць увечары?.. Звычайна героямі гэтых вечаровых гісторый былі хлопчык і дзяўчынка. Як правіла, яны ішлі ў школу, потым сустракалі страшнага злога звера, а потым звера пераязджала машына. Дзіцячая фантазія адвозіла звера ў бальніцу, там яго клалі ў ложак, і на апошнім малюнку звер выздараўліваў, гайдаўся ў крэсле-качалцы, а дзеці сядзелі ў яго на каленях. Нашыя маленькія аўтары дакладна ведалі, як мусіць выглядаць іх кніжка, і мы слова ў слова «запісвалі» іх аповед.

Вельмі хутка я зразумела, што ўсе гісторыі падобныя: у кожнай з іх злога, небяспечнага персанажа збівала машына. Не трэба быць вялікім псіхолагам, каб зразумець, што так дзеці спрабавалі выказаць свае страхі. Так, яны баяліся Звера і машын.

Тыя вечары сталі для мяне ўніверсітэтам. Дзеці навучылі нас слухаць іх самых і адначасна — свой унутраны голас.

## ЧАМУ МАМА?

Першая кніжка пра Маму Му з'явілася ў 1991 годзе. Але пачалася гісторыя яшчэ за дзесяць гадоў да таго. Мы з мужам прыдумалі песеньку пра карову, якая ўпотайкі спявае песні, адказвае на тэлефанаванні і весела матляе рожкамі. Мы зрабілі больш як сто радыёпраграм для дзетак, дзе галоўнымі персанажамі былі Крумкач і Мама Му. У Швецыі гэтыя песенькі таксама ж папулярныя, як і кніжкі, а вось за межамі — не: перакладаць іх даволі складана.

Нават дарослыя пісалі нам шмат лістоў, прыкладам, што яны спазніюцца на працу, каб даслухаць перадачу пра Маму Му. Аднойчы было і такое: я зайшла ў дом, дзе вялося будаўніцтва. Спрэс рабочыя, дарослыя мужыкі: будаўнічыя, электрыкі, зваршчыкі, столяры, у працоўнай вопратцы... І раптам яны прыпыняюць працу і сядаюць вакол радыё з кавай і булачкамі. Аказалася, пачалася наша дзіцячая праграма. Рабочыя выявіліся фанатамі Крумкача.

І сёння дзеці дасылаюць шмат малюнкаў паводле маіх гісторый. Ідэя фікс чытачоў усяго свету, у тым ліку беларускіх дзяцей, — што Мама Му мусіць мець цяля. Бо як жа так? Чаму Мама?.. Я звыклася чуць гэтае пытанне, і адзінае, што магу адказаць: проста гэта геніяльная назва, вельмі паэтычная і лёгкая ў вымаўленні.

## ФАНТАЗІЯ ЦІ РЭАЛЬНАСЦЬ?

Усе мае персанажы трошку прыдуманыя. Калі я была малая, мы жылі над кінатэатрам. І калі там паказвалі мульцікі «Дыснэя», мы думалі: вось, гэты свет прыдуманы адмыслова для нас, дзяцей! Дзецям патрэбны свой свет у кнізе. Напрыклад, апошнія мае кнігі — з серыі пра героя Віна-Віна, для зусім маленькіх дзетак, якія толькі пачынаюць чытаць. Гэты герой быццам бы й хлопчык трох-чатырох гадоў, але ён трошкі нерэальны, з грыбам на галаве, жыве ў лесе ў вагончыку… Я мяркую, дзецям цікавей чытаць пра такога чалавечка, чым пра звычайнага аднагодка. Таксама дзеці вельмі любяць пераўтварэнні. У адной з маіх кніг прывід робіцца то абрусам, то коўдрай.



Чытачы праводзяць паралель: быццам бы Мама Му прадстаўляе авантурны жаночы бок, а Крумкач — нармаваны мужчынскі. Можна такую паралель правесці. Але можна сказаць таксама, што гэта дзіця і дарослы, наш унутраны голас і голас строгай разважлівасці. Крумкач часта што-небудзь забараняе Маме Му: нельга гушкацца на арэлях, нельга скакаць праз плот, хадзі нармальна, як усе каровы… У Нямеччыне кніжкі пра Маму Му прадаваліся вялізнымі тыражамі, па два мільёны, але Крумкач у нямецкім перакладзе — яна. Калі я даведалася пра гэта, дык спачатку падумала: о не, Крумкач мусіць быць «ён»!.. А пасля — чаму не?.. Бываюць і жанчыны-Крумкачы, якія ўсё ведаюць, павучаюць, забараняюць…

## ДЫКТАТУРА ЦІ ВОЛЬНІЦА?

З ілюстратарамі я працую наступным чынам: знаходжу, дамаўляюся, дасылаю тэкст — і ўсё. Я лічу, што мастаку трэба давяраць і даваць свабоду. Але заўжды хвалююся. З кнігай пра Віна-Віна я да апошняга не ведала, як ён будзе выглядаць. Добрыя ілюстратары заўжды дадаюць нешта сваё. Падчас працы са Свэнам Нурквістам палову гісторый пра Маму Му стварылі ягоныя малюнкі. Увогуле, наш творчы саюз са Свэнам — гэта каханне з першага погляду. У наступным годзе чакаецца новая сумесная кніга.

Часам я выдаляла вялікія кавалкі тэксту, бо ўсё было сказана ў ілюстрацыях. Аднак кардынальных зменаў у сюжэт мастакі не прыўносілі. Аднойчы, праўда, Свэн настаяў на тым, што такі персанаж, як Крумкач, не можа піць сок. І цяпер ён п'е каву.

## ПІСАЦЬ МОГУЦЬ УСЕ?

Пісьмо для дзяцей — гэта праца. І тут, вядома, трэба мець талент. Я магу сказаць, што гэта мая праца. Трыццаць год я даследую дзіця, яго гульні, псіхалогію. Тыя, хто лічыць дзіцячую літаратуру несур'ёзнай, нібыта кожны можа вось так узяць і звязаць тры словы, моцна памыляюцца. У дзяцей іншы досвед, і адпаведна, іншая мова. Але гэта не значыць — прымітыўная. Праца над словам ідзе не менш карпатлівая і доўгая, чым падчас якога-небудзь "сур'ёзнага", дарослага рамана.

У Швецыі дарослыя пісьменнікі кінуліся ў дзіцячую літаратуру. Сталыя аўтары легкадумна лічаць, што вось зараз яны сядуць і напішуць дзіцячую кніжку. І звычайна гэта кнігі вельмі дрэннай якасці. У Швецыі зараз назіраецца бум: за апошні год толькі дзіцячых кніжак выйшла дзве тысячы чатырыста. Гэта рыначная перанасычанасць. Кнігі ляжаць у кнігарнях не больш як тры гады, а пасля проста знікаюць. Гэта бізнес, вялікі бізнес. Мяркую, нам з беларусамі трэба зладзіць абмен: вы нам вашую вялікую цікавасць да дзіцячай літаратуры, а мы вам — ладную частку аўтараў з іх кнігамі… Зрэшты, пры такой канкурэнцыі сапраўды даравіты аўтар лёгка апублікуецца: выдавецтвы шануюць талент і ўмеюць яго ўбачыць.

## ІНШЫЯ ДЗЕЦІ?

Я працую ў дзіцячай літаратуры трыццаць гадоў, але не магу сказаць, што дзеці сталі іншыя. Дзеці, вядома, усё гэтак жа адрознія ад людзей дарослых, але самі па сабе яны ўсё тыя ж. Што змяняецца, дык гэта тэмы, цікаўнасці.

Падчас гэтай сустрэчы галоўным пытаннем было — «Як зрабіць дзіцячую кнігу?» Але найперш трэба задацца іншым пытаннем: навошта і чаму я хачу пісаць для дзяцей? Ці чалавек хоча нешта згадаць са свайго дзяцінства? Хоча павучаць ці забаўляць? Ці пісьменнік хоча напісаць раман, а піша дзіцячую кнігу, бо яму здаецца, што яно прасцей?.. І якую форму абраць: нон-фікшн, вершы, проста добрая гісторыя?.. У Швецыі часта так бывае: бабуля апісвае, што здараецца з яе ўнукамі, і дасылае ўсё ў выдавецтва. Але ж гэта не дзіцячая літаратура, трэба разумець.

Дзіцячая кніга не мусіць утрымліваць выхаваўчы элемент. Я нарадзілася ў адзін год з Піпі Доўгайпанчохай. Да Астрыд Ліндгрэн ніхто яшчэ не рабіў такіх дзіцячых кніг, непедагагічных, скажам так. Калі я, прыкладам, чытаю раман, то не хачу, каб мяне вучылі, як чысціць зубы, якой я павінна быць, як мне паводзіцца… Я не люблю маралізатарства, бо калі дадаеш мараль у кнігу, гэта тое ж самае, што цукрам прыпраўляць брыдкія лекі. Мараль дзеці атрымаюць, гледзячы на сваіх бацькоў ды іншых дарослых, — і пра гэта, мне думаецца, варта памятаць.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Гара ідзе да Магамета

**Памятаеце бігборды «Смак роднай мовы»? Вельмі цікавы быў праект. Ненавязліва і эфектыўна яго стваральнікі абуджалі ў беларусах моўную генетычную памяць. Якраз гэты праект згадваецца, калі бачыш кнігу «100 беларускіх назваў. Жывёлы», першую ў серыі, заснаванай выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Укладальнікам першай кнігі і натхняльнікам серыі стаўся Алесь Бадак, якога ў першую чаргу варта згадаць як добрага пісьменніка і складальніка пазнавальных дзіцячых кніг, а затым ужо — як дырэктара названага выдавецтва.**



*Фота Кастуся Дробава.*

*Алесь Бадак.*

**— Алесь Мікалаевіч, найперш запытаюся, адкуль узнікла ідэя стварэння такой серыі? І чаму вы абралі менавіта такі фармат?**

— Ёсць кніжкі і нават цэлыя серыі, якія нараджаюцца з асабістых прычынаў. Ёсць выданні, прымеркаваныя да пэўных датаў. А ёсць такія кнігі і серыі, якія падказваюцца збоку, і яны патрэбныя менавіта тут і цяпер. Ідэя серыі «100 беларускіх назваў» падказаная нашымі чытачамі. Не тое каб яны наўпрост пісалі лісты з прапановамі, не. Але мы бачым, калі сустракаемся з юнымі чытачамі ў бібліятэках, школах, цікаўнасць да беларускай мовы. Асабліва гэта датычыць гарадскіх дзяцей, якія не зусім добра валодаюць мовай, але ты бачыш, як яны стараюцца гаварыць па-беларуску, задаваць пытанні падчас такіх сустрэч. Тады й з'явілася ў душы, неяк нават падсвядома, ідэя: чаму б ім не дапамагчы?.. Чаму б не выпусціць па-мастацку зробленую кніжку, якая дапаможа вывучаць беларускую мову не толькі на школьных уроках, але і дома. Каб гэта быў не падручнік, а забаўляльнае выданне. Яшчэ на этапе распрацоўкі серыі часта чуліся пытанні: гэта будзе слоўнік? Не, гэта не беларуска-рускі слоўнік. Серыя, з аднаго боку, сапраўды ўключае яго элементы, але з іншага — яна нагадвае міні-энцыклапедыю, забаўляльна-пазнавальнае выданне. Вось дзіця бачыць, што «белка» па-беларуску — «вавёрка», і тут жа пра тую вавёрку чытае. Суправаджальныя тэксты змяшчаюць цікавую інфармацыю, а не сухія навуковыя вытрымкі кшталту «ў вавёркі такая вага, столькі лап і вачэй».

Чытач жыва адгукнуўся на з'яўленне серыі «100 беларускіх назваў». Яна карыстаецца попытам, гэта бачна на кніжных выстаўках, у крамах, дзе маладыя бацькі набываюць кнігу. Цяпер рыхтуецца выданне, прысвечанае хатнім рэчам, з якімі дзіця кожны дзень сутыкаецца дома, — той жа *дыван*/канапа. І зноў жа, суправаджальныя тэксты маюць на мэце распавесці нешта цікавае пра самыя звыклыя рэчы. Прыкладам, *ножніцы*/нажніцы, якія, аказваецца, прыдумалі не для таго, каб стрыгчы пазногці ці валасы: іх вынайшлі тыя, хто займаўся авечкагадоўляй.

**— Назвы размяшчаюцца па алфавіце?**

— Напачатку была такая ідэя, аднак на практыцы яна аказалася невыканальнай. Бо гэта вымагае, каб былі назвы жывёлаў на кожную з літар, а іх сабраць немагчыма. Цяжка спалучыць канцэпцыі 100 назваў і «алфавітнае, напаўненне», узяць тую ж літару «Ё». І так, напачатку мы даём рускі варыянт назвы, бо калі ўжо кніга адрасаваная тым, хто хоча вывучыць беларускую мову, лічыцца, што рускую мову яны ведаюць.

**— А чаму менавіта 100? Я разумею, гэта прыгожая лічба, але ж магло быць і 30, і 50.**

— Я ішоў ад таго, колькі ўвогуле можа быць арыгінальных слоў, адрозных ад рускага варыянта. Калі я пачаў рабіць для сябе слоўнічак назваў жывёл, не падобных па гучанні ў рускай і беларускай мовах, — вавёрка/белка, дзік/дикий кабан, бусел/аист — такіх слоў набралася каля сямідзесяці. Я падумаў, што лепш пашукаць і набраць сто назваў, чым скарачаць да тых жа трыццаці. Тое ж з хатнімі рэчамі: сто назваў збіраецца без праблем, і школьнымі, якім будзе прысвечаная трэцяя кніжка. Я спадзяюся, што яна будзе цікавая й дашкольнікам, якія, ідучы ў першы клас, ужо будуць ведаць, што ў руках у іх — сшыткі, падручнікі, алоўкі... Кніга пра хатнія рэчы павінна выйсці да першага верасня. У нас увогуле на гэты год запланавана некалькі «школьных» кніжак для маленькіх чытачоў. Згадаю «Забаўляльны каляндар школьніка», дзе мы распавядаем пра асноўныя беларускія святы і прапануем дапаможныя матэрыялы для таго ж школьнага святкавання. У гэтай кнізе можна будзе знайсці, прыкладам, п'еску да Дня маці, каб развучыць у школе. Такіх п'есак для школьных ранішнікаў сёння вельмі не хапае. Вядома, шмат увагі надаём нашым нацыянальным святам, прыкладам, Калядзы, Купаллю: як мы сёння адзначаем, як адзначалі нашыя далёкія продкі. Будзе такі сабе дапаможнік з арыентацыяй на беларускую культуру.

**— Ці робіць выдавецтва нейкія захады дзеля распаўсюду згаданых кніг у школах?**

— Вядома, так, і найперш — падчас прэзентацый у школах. Але тут ёсць адзін нюанс: самі школы не могуць замаўляць кнігі, у іх на тое сродкаў няма, а займаецца гэтым раённы аддзел адукацыі. Мы, безумоўна, накіроўваем да іх лісты, але што датычыць «Забаўляльнага календара школьніка», разлічваем найперш на школьныя бібліятэкі.

**— Колькі пакуль плануецца тэматычных выпускаў серыі «100 беларускіх назваў»?**

— Справа ў тым, што мы не задаёмся мэтай выдаць менавіта пяць кніжак ці дзесяць. Я не ведаю, шчыра кажучы, колькі іх будзе. Пакуль будуць пісацца, будуць выходзіць, бо яны запатрабаваныя. Але тут праблема ў іншым. Я зрабіў першую кніжку і цяпер рыхтую другую. Але я б не хацеў быць аўтарам цэлай серыі і перад сабой такой задачы не стаўлю: нават на вокладцы не пазначана, што ўкладальнік кнігі я. Мы вельмі чакаем ахвочых, гатовых падтрымаць гэтую серыю, зрабіць некалькі кніжак. Чым больш будзе такіх апантаных, тым больш будзе кніжак у серыі. Калі размова ідзе пра пісьменнікаў, кожны імкнецца выдаць свае вершы, прозу... Я некаторым ужо прапаноўваў падтрымаць праект, але яны лічаць, што ў параўнанні з іх творчасцю гэта другасная справа, нявартая ўвагі. Між тым тое, што серыя вельмі патрэбная, неаспрэчна. Таму, калі нехта з чытачоў захоча падтрымаць наш праект, стаўшы аўтарам-укладальнікам, мы будзем вельмі радыя.

**— Якім накладам, дарэчы, выйшла першая кніга?..**

— Тысяча экзэмпляраў.

**— І з іх засталося?..**

— На 1 судзеня 2017 г. заставалася сто з нечым экзэмпляраў.

**— Аднак пэўная частка, як я разумею, ідзе адразу ў бібліятэкі?**

— Нейкая частка — так, іншую забірае «Белкніга». Для нас вельмі важна, каб кніжка была недарагая, і хочацца, каб яна ў першую чаргу трапляла якраз у хатнія зборы, у кватэры, дзе ёсць малыя дзеці, якія б маглі карыстацца кнігай як настольнай.

**— Дзеці таксама могуць самі прыдумляць гісторыі пра згаданых у кнізе жывёл, тым самым развіваючы моўныя навыкі, творчыя здольнасці і спалучаць гэта з гульнёй.**

— Насамрэч, гэтыя словы вядомыя дзецям на генным узроўні, і варта ім патрапіць на лета ў вёску да бабулі-дзядулі, як усё ажывае ў памяці. Асабліва гэта актуальна для гарадскіх жыхароў. Ну дзе ён у горадзе пабачыць таго ж…

**— Лася!**

— Ну так, таго ж лася, умоўна кажучы. І вядома, калі ты яго не бачыш і пра яго не чытаеш, самое слова можа забыцца. Шчыра кажучы, напачатку ў мяне была ідэя даваць побач са словамі літаратурныя творы, прысвечаныя пэўнай жывёле. Дзеці лепш запамінаюць інфармацыю, пададзеную ў выглядзе чатырохрадкоўяў, міні-казак. Але аказалася, што такія творы цяжка знайсці. Калі пра тую ж вавёрку ў беларускай літаратуры процьма тэкстаў, то пра некаторых… Пэўна, пісалася, але знайсці іх праблематычна. Таму вырашыў пайсці іншым шляхам, які, мне здаецца, таксама цікавы.

**— На будучыню можна было б задумаць серыю-спадарожнік з забаўляльна-творчымі матэрыяламі кшталту фарбаванак, зборнікаў загадак…**

— Добрая ідэя, але, зноў жа, усё залежыць ад таго, наколькі вялікі будзе той актыў людзей, якія згодныя працаваць над серыяй. Калі збярэцца хаця б некалькі чалавек — я думаю, можна многае рэалізаваць.

**Наста ГРЫШЧУК**

# ПЕРШАЯ ЛАСТАЎКА

Першая кніга адукацыйнай серыі «100 беларускіх назваў» знаёміць маленькіх чытачоў з прадстаўнікамі жывёльнага свету: звярамі, птушкамі, рыбамі, насякомымі... На старонках кнігі можна сустрэцца не толькі з роднымі беларускімі жывёлінамі і кузуркамі, але і з пантэрай, тыграм, антылопай і нават з аднарогам і дыназаўрам. Вядома, найгалоўнейшы ў кнізе — адукацыйна-моўны складнік, але разам з тым выданне нагадвае нечым дзіцячую энцыклапедыю. Сапраўды, чытач не толькі атрымлівае інфармацыю пра тое, як рускія найменні перакладаюцца на беларускую мову, але і ўзбагачае агульныя веды. Вядома, невялічкія тэксцікі-тлумачэнні, змешчаныя пад ілюстрацыямі, цалкам адрозніваюцца ад строгіх энцыклапедычных выкладак. Асноўная задача, якую яны вырашаюць, — даць дзіцяці магчымасць ужываць новае слова ў беларускамоўным кантэксце, умець дапасоўваць да розных часцін мовы, ужываць правільныя канчаткі. Аўтар Алесь Бадак стварае іх у лёгкай жартаўлівай манеры, спасылаючыся не толькі на рэчаіснасць, але і на сюжэты мульцікаў ці казак, як, напрыклад, у выпадку з аднарогам: «Гледачы мультсерыяла "Падзямелле драконаў" памятаюць, што адным з герояў з'яўляецца аднарог Юні. Можна згадаць яшчэ аповесць Льюіса Кэрала "Аліса ў Залюстрэччы", сярод герояў якой таксама сустракаецца аднарог». Удалае, нязмушанае спалучэнне жарту і тлумачэння факта — адна з адметнасцей гэтай кнігі, якая абавязкова дапаможа дзецям не засумаваць падчас чытання і як найлепей засвоіць інфармацыю. «Пры росце 6 метраў жырафа можа без праблем зазірнуць у акно кватэры на другім паверсе. Цікава было б: ты вучыш урокі, а тут... Каму цікава, а каму і страшна. Ну, а калі б яшчэ... яна гарэзліва паказала табе свой язык... Не, ад гэтага дакладана можна спалохацца. Язык у жырафы чорны, а ў даўжыню можа быць 45 і больш сантыметраў!» — такое абавязкова запомніцца.




Варта адзначыць, што кніга «Жывёльны свет», як і ўсе наступныя выданні серыі «100 беларускіх назваў», цудоўна падыдуць і для сумеснага хатняга чытання, і для заняткаў у дзіцячых садках і малодшых класах.

**Жанна КАПУСТА**



Уладзімір МАЗГО

***

*У Заслаўі, Пінску, Лідзе*
*Ды і ў іншых гарадах*
*Разліваюць на Вялікдзень*
*Пірагі духмяны пах.*

*Растае настрой халодны,*
*Калі птах вясну прынёс.*
*Сонца яйкам велікодным*
*Усміхаецца з нябёс.*

*«У імя Айца і Сына…» —*
*Ахінае нас святлом.*
*І збіраецца краіна,*
*Як вялікая сябрына,*
*За абедзенным сталом…*

*У Заслаўі, Пінску, Лідзе*
*Ды і ў іншых гарадах*
*Разліваюць на Вялікдзень*
*Пірагі духмяны пах.*

## Мая любімая сталіца

*Вядуць усе дарогі*
*Здалёку нас і зблізку*
*Да Плошчы Перамогі*
*Святога абеліска.*

*Мы тут сябе адчулі*
*Мінчанамі нарэшце:*
*Ад светлых мінскіх вуліц*
*Цяплеюць нашы сэрцы.*

*Мая любімая сталіца*
*Ў люстэрка Свіслачы глядзіцца —*
*І ловіць вечарам і раннем*
*У ім сваё адлюстраванне.*

*Мая любімая сталіца*
*Са мной пяе і весяліцца.*
*Яна, як маці, дарагая.*
*І не патрэбна мне другая.*

*Жадаюць птушкі ў высях*
*Табе ў любві прызнацца.*
*А я хачу прайсціся*
*Па беразе юнацтва,*

*Да паркаў і бульвараў*
*Душою дакрануцца,*
*Дзе я заўсёды марыў*
*Ізноў сюды вярнуцца.*

*Мая любімая сталіца*
*Ў люстэрка Свіслачы глядзіцца —*
*І ловіць вечарам і раннем*
*У ім сваё адлюстраванне.*

*Мая любімая сталіца*
*Са мной пяе і весяліцца.*
*Яна, як маці, дарагая.*
*І не патрэбна мне другая.*

## Блізка да Ваўкавыска

**Дзмітрыю Качароўскаму**

*Продкаў песні векавыя*
*Будзяць цішу за вакном.*
*Хваляй цёплай Ваўкавыя*
*Лашчыць бераг перад сном.*

*Пералётныя стагоддзі*
*Ўдалеч птушкамі лятуць.*
*А бярозы карагодзяць —*
*Карагоды год вядуць.*

*Прапісаліся сягоння*
*Ў нашых сэрцах назаўжды*
*Краявіды Прынямоння*
*З глебы, неба і вады.*

*Далеч продкаў стала блізкай,*
*Каб яе нам берагчы,*
*Калі вокны Ваўкавыска*
*Засвяціліся ўначы.*

## Родная спадчына

*Зноўку вабяць бязмежныя далі*
*За бясконцы, як шлях, небакрай.*
*Дзе юнацкія вёсны світалі,*
*Край бацькоўскі падобны на рай.*

*Край любімы і мілы да скону,*
*Што чаборам і мятай прапах.*
*На салодкіх, як лета, губах*
*Ад суніц адчуваем аскому.*

*Тут жывуць спаконвечныя казкі*
*І быліны дзядоў і бабуль.*
*На магілах палеглых ад куль*
*Тут гараць неўміручыя краскі.*

*Дзе калісьці наш продак Скарына*
*У Еўропу свой шлях пачынаў,*
*Ганарацца нашчадкі няспынна*
*Роднай спадчынай.*

## Пліса

*На вастрыі ляза*
*Сучаснага канала*
*Іскрылася Пліса*
*І ледзьве не канала.*

*Але працяг знайшла*
*Яе рачная доля.*
*Нібы па кроплі шкла,*
*Рассыпала між поля*

*Расколатую гладзь,*
*Дзе п'юць ваду вясёлкі,*
*Каб у траве схаваць*
*Разбітыя асколкі.*

*На рыбу рыбакі,*
*А дачнікі на грады*
*Спяшаюць ля ракі.*
*Спяваюць пераказы.*

*Хвалюецца Пліса:*
*Жыццё наканавала*
*Па кропельцы пасаг*
*Збіраць*
*На дно канала.*

## Батанічны сад

*Ідзём паміж прысад,*
*Зважаючы на краскі,*
*У Батанічны сад,*
*Што акурат як райскі.*

*Закружаць галаву*
*Суквецці на паляне —*
*Здаецца, што плыву*
*У кветак акіяне.*

*Нібыта маякі,*
*Палаюць вабна клумбы.*
*Мы тут — як маракі.*
*Дакладней — як калумбы.*

*Звініць шчаслівы крык:*
*Відаць, хлапчук сталічны,*
*Нібыта мацярык,*
*Адкрыў — сад Батанічны.*



Галіна НІЧЫПАРОВІЧ

## А мы з табой…

*Ты чуеш,*
*Як шапоча лісце,*
*Калыша вецер вербалоз.*
*А мы з табой*
*Шукаем выйсце,*
*Блукаем*
*Паміж трох бяроз.*
*А мы з табой*
*Неспадзявана*
*На сцежцы*
*Стрэліся ізноў,*
*Праз тоўшчу дзён,*
*Нібы з туману,*
*Нібыта*
*З казачных замоў.*
*Твой вобраз,*
*Родны і… далёкі,*
*У сэрцы*
*Шчэ маім жыве,*
*А ў небе*
*Месяц аднабокі*
*Кудысь*
*Задумліва плыве.*
*З табой мы*
*Вымяраем крокі,*
*Губляем*
*Па хвілінах час…*
*І толькі зоркі,*
*Толькі зоркі,*
*Напэўна,*
*Разумеюць нас.*

***

*Не аднойчы,*
*Зусім не аднойчы*
*Марай вятлай*
*Глядзеўся ў вочы.*
*Так і сёння —*
*Кружыў, заляцаўся*
*Новы дзень,*
*Ён са мной прывітаўся.*
*Сыпануў*
*Залацінкі-іскрынкі*
*Росам буйным,*
*Крануў аблачынкі,*
*Памярэжыў*
*Праменьчыкам першым*
*Ды радкамі*
*Лёг мне у вершы.*

## Таемнасць

*Люструюцца*
*Ў возеры зоры.*
*Нячутна*
*Ступае ноч.*
*У сон спавіла ўсё,*
*Апроч*
*Таемнасці*
*Шэпту замовы.*
*А знічкі,*
*Што падаюць зрэдку,*
*Зіхотка*
*Гараць у травах,*
*Адродзяцца*
*Ў мроях-марах,*
*Каханне*
*Запросяць у сведкі.*

## О, мая Беларусь!

*О, мая Беларусь!*
*Тут сцяжынка маленства,*
*Спеўны гоман плыве*
*Між лугоў і палёў.*
*Ў цэлым свеце табе*
*Не знайсці падабенства,*
*Цёплых слоў, светлых слоў,*
*Каб сказаць пра любоў.*
*Багацей з году ў год,*
*Каб народ не журыўся,*
*Хай квітнее заўжды*
*Край блакітных азёр.*
*Голас мовы тваёй*
*У вяках не згубіўся,*
*А ў суквецці краін —*
*Беларускі узор.*

## Назаўсёды адзіны

*Край Коласа слынны,*
*І ноччу і днём*
*Мяне саграваеш*
*Сваім ты цяплом.*
*Тут Нёман адвечна*
*Пяе калыханку,*
*А травы у лузе*
*Шапочуць ад ранку.*
*Лагодна калыша*
*Тут вецер асокі.*
*І спеў салаўіны,*
*І плач перапёлкі…*
*Над роднаю хатай,*
*Над пожняю ніві*
*У сэрцы маім*
*Ты заўсёды адзіны.*

***

*Дзень вандруе*
*У клопатах зранку,*
*Прытаміўся,*
*Прысеў адпачыць.*
*Чараўніца ноч*
*Тчэ калыханку,*
*Дробны дожджык*
*Імжыць ды імжыць.*
*Сон лагодны*
*Пяшчотнай рукою*
*Запрашае*
*У казачны свет.*
*Там спаткацца*
*Хачу я з табою,*
*Ноч малюе нам*
*Новы сюжэт.*

## Прыгажэйшая за кветкі

*Няма ніводнай кветкі на зямлі,*
*З тваёй красою здольнай зраўнавацца.*
*Такія тут яшчэ і не цвілі,*
*Каб імі, як табою, мілавацца.*

*Лілея, што гайдаецца ў вадзе,*
*Не здольная за твар твой*
*быць бялейшай.*
*Не знойдзеш кветкі ні адной нідзе,*
*Якая б за цябе была мілейшай.*

*Валошкі сінь не зіхаціць ярчэй*
*Чым воч тваіх нябеснае адценне.*
*Твой вобраз выглядае прыгажэй,*
*Чым архідэя, кветка летуцення.*

*Няма ніводнай кветкі на зямлі,*
*З тваёй красою здольнай зраўнавацца.*
*Такія тут яшчэ не зацвілі,*
*Каб імі, як табою, любавацца.*

## Чыстае каханне

*Напэўна, за крышталь чысцей*
*Маё бязмежнае каханне.*
*За зоры ўсе яно ярчэй,*
*Ад сэрца йдзе замілаванне.*

*Любімы светлы вобраз твой*
*Хвалюе і душу кранае.*
*Ты сон, ты мара казак-мрой,*
*Табой каханне ап'яняе.*

*У словах цяжка перадаць,*
*Наколькі чыстае жаданне.*
*Ні з чым, ні з чым не параўнаць*
*Маё нястрымнае каханне…*

## Белая ружа, чырвоная ружа

*Белая ружа мае адценне*
*Тваіх валасоў шаўкавіста-гуллівых,*
*Чырвоная ружа мае адценне*
*Румянца твайго, што гарыць сарамліва.*
*Белая ружа, мабыць, паўторыць*
*Рук тваіх колер высакародны.*
*Ружа чырвоная яркасць падорыць*
*Колеру вуснаў, любімых, маркотных.*

*Белая ружа хоча мець колер,*
*Быццам душы тваёй чыстай свячэнне.*
*Чырвоная хоча як мага болей —*
*Кахання гарачага, хоць на імгненне.*

*Толькі ніводнай з іх не параўнацца*
*З тваім харством і ўсмешкай*
*чароўнай.*
*Ніводнай з табою красой не змагацца —*
*Ні ружы белай, ні ружы чырвонай.*

## Начныя пацалункі

*Пад зоркаю яснай нябёс пазалоты*
*Я вусны твае страсна, палка цалую;*
*Губляю дыханне з тае асалоды,*
*Ажно галаву маю кружыць хмяльную.*

*Кранальны, ласкавы начны пацалунак*
*Мне сэрца хвалюе, душу наталяе;*
*Ён быццам бясцэнны нябёс падарунак.*
*Пра большае нават не мару: кахаю!*

*З гарачым пачуццем цалую твар мілы,*
*З вялікай пяшчотай і ласкаю, шчыра.*
*Начны пацалунак… Я быццам на крылах*
*Пад месяцам срэбным, што свеціць*
*зычліва.*



Алег ГРУШЭЦКІ



Алена СТЭЛЬМАХ

# ПАВАДЫР

*Казка-прытча*

Гаспадарскі падворак на вачах прыходзіў у заняпад. Той конь, што калісьці шпарка бег паперадзе вазка, цяпер ледзьве ногі перастаўляў. І бізун яму не ўказчык. Сам сабе разважаў: «Чаго, як дурному, перцісь, пыл глытаць? Людзей не перайначыш: цішэй едзеш — далей будзеш». Карова-рэкардсменка запускацца пачала раней часу. Казала: «Надакучыла цягаць вымя з вёдрамі сырадою. Лепш пасяджу ў дэкрэце. А там відаць будзе». Куры адна адну падахвочвалі — кахталі навыперадкі. Нягеглае свінчо і тое ў карыце лычом варыва круціла. Як сала на такім кручку нарасце? Каля сядзібы — запусты, воля вольная наўкол для нахабнага гавылу.

Стаіць пануры бык у стойле, жвачку жуючы, самотную думу думае: «Што за трасца такая? Расперазалася ўся суполка, як дзедаўская пуга. Ніякай управы на дармажэрцаў няма! Колькі ні панукай — дзе сеў, там і злезеш. Не жыццё, а багно топкае!»

Не захацеў ён мірыцца з такім абрыдлым існаваннем. «Хопіць славіцца кацьмакамі! "Гайкі" падкруціць усім месцічам трэба! Без разумнага павадыра тут не абысціся», — зрабіла выснову мудрая жывёліна.

Нейкі час верхаводзіць спрабаваў гусак. Шыю доўгую, як верацяно, выцягне, дзюбатую галаву ганарліва ў неба задзярэ, распушчанымі крыламі ў паветры замалоціць. «Га-га-га!» — на ўвесь двор сіпата закрычыць, на ўсіх страху напусціць. Бывала, нават кінецца каго-небудзь за ногі шчыпаць — няма чаго без толку сноўдацца! А нясушка-добразычліўка кумільгом тут як тут: «Што, пан, гоману нарабіў? Можа, галава баліць, і пан палячыць яе хоча?» Вытыркне з пушыстага падолу гарлейку паўлітэркі — самаахвотны павадыр мілосна і абмякне. Нібы па вяровачцы, за спакусліва сяброўкай следам падыбае. За вуглом свірна гагатун чарачку-другую коўтне, нешта загергеча і сціхамірыцца. Не зразумець: дыхае ці знежывелы? Колькі птушыным мазгам тае сівушнай атруты трэба? Затое ўсім цэлы дзень — латва: падворак гужуе, развясёлае кудахтанне, заліхвацкая п'янка-гулянка куратнік па шчэпках разносіць. Неяк гусак мазгі адпіў, улукаткі пайшоў, не зважыў, куды павяло. Спярша — пад колы аўтамабіля, а потым і ў суп трапіў…

Чуў бык пагалоску пра пеўня, што вясёлы і дужа спрытны. І людзі яго на вёсцы хвалілі: не заспіць, ды і да працы гарачы. Раніцай калаўрот вясковых спраў пачынаў круціцца па новым крузе. Занепакоены бык надумаў на падворку склікаць сход. Сам узяўся быць моўнікам:

— Хопіць, браткі, лынды біць! Да парадку ўсіх заклікаю! А каб лепш наш быт наладзіць, запросім дасведчанага знаўцу.

Запрэглі каняжыну. Упаўнаважанымі для перамоў пасадзілі ў вазок самавітую сямейную пару — барана з авечкай, блаславілі ў дарогу. Тыя доўга блукалі, у людзей перапытвалі, куды і як ехаць, але такі дабраліся да высокага церама. Гаспадарлівасць, адмысловая чысціня адразу кінуліся ў вочы. Узрадаваныя, пайшлі да пеўня з паклонам:

— Млосцім, шаноўны пане, нашым павадыром быць, — нізка схіліліся, спадзеўна мовяць: — Хочам і мы гэтак жа заможна жыць!

— Добра, — згадзіўся певень. — Хаця і ў самога спраў па горла. Хутка жніво — час зерне на зіму рыхтаваць. Але разумею: не за так сабе і вы ехалі — пільная патрэба змусіла. Што ж, дапамагу!

Назаўтра крамяны маладзічок яшчэ не паспеў здаць свой пост, а певень зняблізку ўжо прыскочыў, на новым падворку рупіцца: «Кукарэк, кук!» — чарговы працоўны дзень вясткуе, галасна будзіць дрымлівае панства. Тое ад такога фокусу ажно ачмурэла. Цікуе: «Адкуль нецiхоты ў глухім двары? Што за выбрыкі навапрыбылы выкідвае? Будзіч знайшоўся!» А спрытняк-пеўнік па-простаму, па-сялянску сваю праўду даводзіць:

— Сонейку, каб у неба ўзняцца і ўвесь дзень асвятляць безліч нашых спраў, для старту трэба плячо падставіць. Здужаем мы гэта ўсёй грамадой!

— Уздумаў што, крыкун гарласты, — сыкаюць месцічы, але выгляду не падаюць, што не ў нос ім гэта. Мурзачы спрасоння ледзь з хлява сунуцца. Што ад гною смурод стаіць, поўсць у каўтуны збілася — бяды вялікай! Рухавы певень сам жвавіцца і чарговую каманду галасна падае:

— У поле, на луг пара! Летні дзень год корміць!

Так-сяк разварушыліся. Цераз пеньканоду сонца прывіталі. А певень яшчэ больш заўзята грамаду да работы падштурхоўвае:

— Пара на сенажаць збірацца. Хто дужэйшы — возьме косы, астатнія грэбці будуць. Зіма доўгая, смачную ды сытную едаўню любіць. Голад ёй не цётка.

Карова фанабэрыста рогам павяла:

— Я дама ў цікавым становішчы. Мне да вашай хеўры клопату няма!

Вільнула хвастом і знікла ў хляве.

Кот сабаку падміргнуў — даўно яны ў сяброўстве. Аглядаюцца, як гэта вуды з паветкі сцібрыць ды неўпрыкметку на рэчку сігануць.

Певень на падворку барана за галоўнага пакідае:

— Ты, — кажа, — дроў накалі, а авечка няхай абед згатуе.

Як давялося ісці на луг — касцоў усяго двое: угаспадараны певень ды спагадца яго — бык. Пакуль раса трымалася, лягчэй паддавалася трава. Але, хоць і сонца пячэ, і пот дзюркам ліецца, — работнікі касьбу не кідаюць. Косы мянташаць, пракосы шырэй захопліваюць, ёмка адзін за адным іх кладуць. Побач пчолкі шчыруюць, навыперадкі з мядовых кветак на суседскую пасеку смакату носяць, касцоў сваім стараннем падахвочваюць.

А тыя завіхаюцца, на сонейка пазіраючы. Спякота стаіць такая, што, здаецца, неба плавіцца. Хто б збанок прынёс — вады глытнуць. Але колькі руплiўцы прагныя позіркі спадзеўна ў бок падворка ні скіроўвалі — усё дарэмна. Здэцца, і муха ў тым кірунку не праляцела.

Як вечарэць стала, азірнуліся — сабе не паверылі. Луг — бы мастак карціну намаляваў, так ладна ляжаць зграбныя пракосы. Гаспадарліваму пеўніку хораша на душы ад таго, што сена накошана ўдосталь. І бык рады, цяжкой галавой у знак згоды трасе, рогамі падтаквае.

Закінулі яны косы за плечы, вяртаюцца, стомленыя, дадому. Аж здалёк бачаць: плота таго, што раніцай, пахілы,



Фота Кастуся Дробава.

на струхлелай апірцы трымаўся, няма. Аказалася, свінчо забаўку мела: рохкаючы, рыла без разбору, то тут, то там кірпаты лычок ткнула. Так знікла апошняя, няхай сабе і ўмоўная, але агароджа ля падворка.

Конь, катораму раніцой нездаровілася (быццам балеў зуб), зараз перад той нядократкай-каровай рагоча на ўвесь рот. Зубы, нібы цагліны, вытыркаюць.

Індык сядзіць на той самай калодцы, дзе баран дровы калоў. Паленцаў — па пальцах пералічыць, затое цыгарак столькі насмалена, што хоць ты недакуркі замест дроў у печ кладзі — гарачая будзе. Індык сам сабе нешта балбоніць і павольна колцы дыму цыгаркавага высока ў паветра пускае. Вольнаму — воля.

Незабавам двое сябрукоў вырысаваліся — кот з сабакам у абдымку. Шчаслівыя. Вуды дзе падзелі — няведама. А вось з чаркай дакладна не размінуліся.

Варыва, што авечка пачала яшчэ раніцай стравараваць, нікому не прыйшлося да смаку. Крыху сербанулі ды насамі закруцілі.

Раптам гвалт паветра ўскаламуціў: у суседскі агарод блудлівая каза ўбілася, лепшыя качаны капусты пахрумстала. Так і іншыя тутэйшыцы самі па сабе валэндаліся, хапанулі чаго іншага, больш смачнага, на чужых падворках. Лена сонца на спачын правялі ды самі прагна пайшлі да сну туліцца.

Глядзіць на такі парадак певень, дзівуецца. «Не можа быць, — думае, — перайначу я іх! Нораў тутэйшы як кол тугі праз калена пераламлю».

Вечарам у кросанняx па-змоўніцку шэпчуцца куры:

— Трэба павадыра ўтаймаваць. Бач, разумнік, будзе ён ні свет ні зара глотку драць, нас непакоіць. Без назойлістага дбайцы абыдземся.

Рашылі ў якасці выратоўцы ўсё тую ж дасціпную сакатушку пасыльнай адправіць. Тая на досвітку не заспала, на плечы лепшую пярэстую хусцінку накінула, на моднай спадніцы пер'е начасала, прычапурылася як след і пашыбавала да пеўня.

— Дзень добрыцца, шаноўны пане! — інтрыгоўна павіталася з руплiўцам. Той тапарышча насаджваў, прыпыніўся, прыслухаўся, што кабета бае.

— Ад новай плыні наш падворак хутка акрыяе! — заспявала мядовым галаскам сакатушка. — Гэты поспех трэба адзначыць! Ёсць у мяне гасцінец на траўках... — па-змоўніцку падміргнула і спрытна прыўзняла спадніцу.

Звыклы да такіх хітрыкаў певень і вухам не павёў, толькі грэбень натапырыў:

— Што гэта ты, кума, надумала? Здзек нада мной чыніш? Непіток я, гэта зелле і ў рот не бяру. Няхай яно на цёмны лес пойдзе!

Курыца, як варам аблітая, у разгубленасці зніякавела, цішком назад падалася, нібы ветрам яе здзьмула. Певень-працаўнік з уласцівымі яму аптымізмам і напорыстасцю з усіх сіл стараўся абудзіць соннае царства замшэлага двара. Аднак як ён ні намагаўся, кампанейцам яму толькі бык і быў, адзін за ўсіх рогам упіраўся. Астатнія толькі і зыркалі, як злындзіць.

Тады няўрымслівы павадыр вырашыў на бацькавіне арганізаваць свята. Спадзяваўся: можа, так непаборны падворак зварушыць. А трэцяй гадзіне, калі вясковыя пеўні наладзілі першую пераклічку, перадаў праз іх абвестку па ўсёй тутэйшай сядзібе. Пайшлі запрасіны да ўсіх, каму мілы бацькоўскі кут.

Што тут усчалося! Скакалі, беглі, ляцелі ў госці выхадцы з роднага гнязда. Пекныя каровы-паненкі казалі, што больш духмянага сена, як з лугу за вакаліцай, у жыцці не смакавалі. Расфуфыраныя свінні-матроны радасна рохкалі, бо жалудоў смачней, чым з вясковага дуба, нідзе не хрумсталі. Балбатлівыя куры-вяртушкі нават чвыр за самыя саладкія на зямлі прысмакі ўхвалялі.

Толькі мясцоваму асяродку такі размах быў не ў дугу — маўляў, наброда павыпінацца хоча. Ваўкавата пазіралі насельнікі падворка на гасцей, што парушылі іх спакой, злосна шапталіся між сабою:

— Прынесла іх нялёгкая! Бач, разышліся, як у сябе дома... Хутчэй бы павымяталіся!..

...Новы дзень пачаўся наўздзіў маўклíва. Ніхто нікога не будзіў, ніхто нікога нікуды не клікаў. Апоўдні на шыкоўным аўтамабілі, не з тутэйшым размахам, прыехалі незнаёмцы: за тавaрыну аддалі гаспадару сядзібы пачак грошай, задаволена параукаліся. Уладарыста агледзелі падворак, пакруцілі галовамі…

Упрыстыя месцічы агаломшана схамянуліся: штó-тка цяпер будзе?..

# ДЭТЭКТЫВЫ І ДРАМЫ

## з жыцця першых кніг

**Чым глыбей у мінулае, тым больш каштоўнай была кніга. Чатыры стагоддзі таму яна лічылася вялікім скарбам, пра што сведчаць не толькі каштоўныя абклады і пашанотныя словы пра кнігу, але і шматлікія дэтэктыўныя гісторыі, дзе кніга рабілася аб'ектам увагі зламыснікаў. Ускосныя сведчанні пра гэтыя здарэнні ўтрымліваюць многія старадрукаваныя выданні — у тым ліку Заблудаўскае Евангелле вучыцельнае, якое захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук. Заблудаўскае Евангелле — адна з самых старажытных беларускіх кніг. Таму напачатку ўзгадаем яго гісторыю...**



### КНІГА З-ЗА БЛУДАЎСКАЙ ПУШЧЫ

Цяпер Заблудаў — невялікі гарадок на Беласточчыне, у Падляскім ваяводстве, на мяжы з Беларуссю. Едучы на машыне, мінаеш яго за хвіліну, і цяжка ўявіць, што 450 гадоў таму места квітнела. Тады гэта быў зусім яшчэ новы горад, пабудаваны магнатамі Хадкевічамі на зямлі за Блудаўскай пушчай, ласкава нададзенай вялікім князем. Ад месца размяшчэння паходзіць і назва — Заблудаў.

Менавіта ў Заблудаў прыехалі першадрукары Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец. Не па сваёй волі перабраліся яны ў Вялікае Княства з Масквы, а «презелнаго ради озлобления, часто случающагося нам от многихъ начальникъ, и священноначалник, и учитель, которые на нас зависти ради многия ереси умышляли, хотячи благое в зло превратити и Божие дело в конецъ погубити». Так тлумачыў пераезд Іван Фёдараў, якога цёпла сустрэлі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Разам з Пятром Мсціслаўцам ён стаў працаваць у друкарні гетмана Рыгора Хадкевіча.

За два гады працы ў Заблудаве Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец надрукавалі два выданні: Евангелле вучыцельнае, а таксама Псалтыр з часасloўцам. Псалтыр — рэдкае выданне, у свеце вядома ўсяго тры яго асобнікі. А вось асобнікаў Заблудаўскага Евангелля значна больш. У Беларусі захоўваюцца тры з іх, адзін — у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы.

Адзначым, што Заблудаўскае Евангелле вучыцельнае — не зусім тое Евангелле, якое мы прызвычаіліся бачыць. Вучыцельнае, або павучальнае, Евангелле — гэта зборнік пропаведзяў-слоў, створаных на аснове біблейскіх гісторый. Такі своеасаблівы каментарый да Евангелля, які чытаўся святаром як казанне на нядзельных і святочных службах. Гэты зборнік стварыў балгарскі пісьменнік Канстанцін Праслаўскі ў канцы IX стагоддзя. Упершыню ва Усходняй Еўропе кніга была надрукавана менавіта ў Заблудаве ў 1569 годзе. Цікава, што ў першае выданне, акрамя традыцыйнага тэксту кнігі, трапіла і «Слова на Ушэсце» Кірылы Тураўскага. Так была здзейснена першая публікацыя помніка старажытнай беларускай літаратуры.

Асаблівасць Заблудаўскага Евангелля, якое захоўваецца ў бібліятэцы НАН, — сляды надзвычайнай чытацкай увагі да тэксту. На палях сустракаюцца запісы XVI — XVII стагоддзяў прынамсі пяццю почыркамі! Відавочна, кніга захоўвалася ў асяроддзі святароў і перадавалася з пакалення да пакалення сярод служыцеляў адной царквы. Святары чыталі кнігу з вялікай цікавасцю: крэслілі на палях, пазначалі «NB» (то бок «Nota bene» — «Звярні ўвагу»). Адзін з іх нават пакінуў на некалькіх старонках чорныя кругі — сляды чарнільніцы, якую неабачліва паставіў на самы цэнтр старонкі, пазначаючы «Зри» насупраць важнага для сябе фрагмента. Для разнастайнасці слова «зри» часам пісалі і наадварот — «ирз».

У царкоўнаславянскай мове запісаў-маргіналій можна ўбачыць рысы народнай, «простай» мовы і пэўныя асаблівасці маўлення чытачоў: «хто», «што», «чудо», «мовить». Таксама чытач пазначаў сэнс незнаёмых ці нязвыклых словаў, напрыклад, насупраць слова «перфира» запісаў «пурпура», а «икону» патлумачыў словамі «образ малеваный». Характэрны і роспіс пяра на бакавым полі Евангелля: «Проба пера и чарнила чы добре будет писати». «Чарніла», «чы добре» — тут і зацвярдзелыя зычныя, і аканне — рысы беларускай мовы ўжо ў XVI — XVII стагоддзях!

Шэраг чытацкіх выпісак і заўваг можна аднесці да своеасаблівых мудрасловаў: «Всякий грех убиица есть и заклатель души», «множаишии недузи от грех бывают», «не брашно есть и пиво царство небесное, но правда и пощение». А на адну з біблейскіх прытчаў чытач-святар адрэагаваў: «Зри яко неподобает учителем ленитися».

### НЕ ТРАПІЦЬ ПАД ПРАКЛЁН

У XIX — XX стагоддзях кніга беларускіх святароў аказалася ў расійскіх старавераў. Мы нават ведаем імёны дваіх уласнікаў: Павел Якаўлевіч Козін і Пелагія Паўлаўна Цеплякова. Відаць, у іхніх нашчадкаў кнігу набыў калекцыянер Міхаіл Севасцьянаў, які ў 1973 годзе прадаў яе нашай бібліятэцы.

Але як апынулася кніга ў расійскіх старавераў? Якім шляхам ад беларускіх святароў трапіла да расійскіх затворнікаў? Мы падышлі да загадкавага эпізоду з гісторыі заблудаўскага асобніка.

У пачатку кнігі ёсць вялікі запіс, які можа праліць святло на яе лёс. Гэты запіс — укладны: сведчанне пра ўклад, ахвяраванне кнігі ў царкву. Вынаходніцтва кнігадруку дазволіла многім людзям, у тым ліку сялянам і месцічам, далучыцца да кніжнай культуры: нават непісьменныя цяпер маглі купляць кнігі і ўкладаць у мясцовы храм з тым, каб захаваць памяць пра сябе. Ва ўкладным запісе ўкладчыкі — мужчыны, жанчыны, сем'і, цэлыя вясковыя грамады — абавязвалі святара, які будзе чытаць кнігу, маліцца за іх здароўе, а пасля смерці — за іх душы: «При животи за их Бога молити, а по смерти их поминати».

А за крадзеж, продаж і любое «аддаленне» кнігі з месца ўкладу ўкладчык грозіў праклёнам: «А хтобы мел



порушити от церкви, а снову не вернул, таковый да буди проклят» ці «Хто сию книгу украдет, тому рука па локоть отпадет». Або: «А если кто схочет люб на свою потребу, люб до иного храму отдалити, таковых прокліат от меня в сем веце и в будущом» і «мает со мною розсудити на оном страшном суди и на не лицеприятном».

Укладны запіс ёсць і ў асобніку Евангелля вучыцельнага. З яго вынікае, што ў 1593 годзе кніга была ахвяраваная падсудкам аршанскага земскага суда і, магчыма, іншымі асобамі (у запісе можна прачытаць і пра «раба божего Павла Ивановича») у царкву Прасвятой Багародзіцы. Месцазнаходжанне царквы, як і прозвішча падсудка — памочніка суддзі — невядомае: запіс яўна быў выцерты і змыты пазней. Навошта? Магчыма, невядомы зламыснік скраў кнігу з царквы і, перш чым перапрадаваць, выцер у ёй сляды, што маглі ўказаць на мінулых уласнікаў.

Менавіта выцертыя, заклееныя, закрэсленыя запісы і ёсць сведчаннямі таго, што кніга была здабытая незаконным шляхам, а злодзей знішчыў усё, што магло паслужыць дакументальным пацвярджэннем таго, каму кніга належала раней.

«Новыя гаспадары» маглі зацерці не ўвесь уладальніцкі запіс, а толькі імя гаспадара або назву царквы ці манастыра, які ёю валодаў. Часам запісы выцiралі, і новыя пісалі проста паверх выцертага. І не пужалі іх нават пагрозы сустрэчы на страшным судзе, чым пагражаў і падсудак аршанскі: хто «с тое церкви сие Евангелие возмет и отлучит», з тым рассудзімся «на страшном суде Христовом», пісаў ён.

### КРЫМІНАЛЬНЫ ТРЫЛЕР

Нягледзячы на пагрозы праклёну і страты паловы рукі, злодзеі скрадалі кнігі пастаянна. Архіўныя крыніцы захавалі для нас шэраг такіх гісторый. Так, па смерці шляхціца Марціна Вольскага ў 1582 годзе з яго маёнтка Карсаковічы было скрадзена некалькі коняў, сёдлы, дарагая вопратка, зброя, воск, мёд, пярыны, падушка, мыла, ланцуг, а таксама і кнігі: «Библея, Постыля и Статут писаный».

На 4 гады раней на Слонімшчыне злачынцы залезлі да Яна Юндзіла «у свирн», «разбивши скрыню великую белую, в которой была скрынка малая чырвоная железем окованая, а в той скринце малой чырвоной были прывилья короля, книга Библия пры той же скрынце чырвоной была». А падданыя пана Станіслава Ляпкоўскага скралі са скрыні ў свірне маёнтка Ваўковічы нейкую кнігу і арфу.

З падобнай праблемай сутыкнуўся і ключнік замка слонімскага Юры Андрэевіч: ён паскардзіўся ў суд на свайго слугу, які ўцёк з рэчамі гаспадара, прыхапіўшы пярсцёнкі, футры, кажухі, каўнер, а таксама загадкавую чорную скрынку, у якой засталіся дзевяць кашуляў, чорным і белым ядвабам вышываных, абрус, ручнік, тры каўпакі, а таксама кніжка Новага Запавету — «Тестамент польский новый, а иных книг потребных польских четверы».

У Магілёве ў 1579 годзе адбылася іншая непрыемная гісторыя. Магілёвец Марк Іванавіч узяў на навучанне Пракопа, сына «Мокаровой моляровой», «якого мел так выучить, яко и сам умеет по-руску и по-полску». Але праз нейкі час маці забрала хлопца з навучання, не заплаціўшы настаўніку, больш за тое — нібыта намовіўшы на злачынства: «Книги мои Новый Тестамент полский неведать для чого пограбил».

### АХОВА АЎТАРСКАГА ПРАВА

Няпроста ўявіць, але ў тым жа XVI стагоддзі на нашых землях існавала не толькі праблема скрадання кніг, але і крадзяжу інтэлектуальнай уласнасці! У 1578 годзе ў Кракаве выйшла першая маштабная праца па гісторыі і геаграфіі Усходняй Еўропы «Апісанне еўрапейскай Сарматыі». Лацінамоўнае выданне было прысвечана вялікаму князю літоўскаму Стэфану Баторыю. Аўтарам кнігі быў Аляксандр Гваньіні — італьянец, які 21-гадовым хлопцам прыехаў у ВКЛ. Гваньіні атрымаў шляхецтва, служыў у войску, шмат гадоў у час Лівонскай вайны займаў пасаду каменданта Віцебска. Пад кіраўніцтвам Гваньіні ў войску служыў паэт і гісторык Мацей Стрыйкоўскі — чалавек, які нарадзіўся ў цэнтральнай Польшчы, але большасць жыцця служыў Вялікаму Княству.

Калі з друку выйшаў наклад кнігі Гваньіні, Стрыйкоўскі быў абураны і паскардзіўся на былога начальніка вялікаму князю: маўляў, той скарыстаўся становішчам і ўкраў у Стрыйкоўскага яго напрацоўкі! Суд выслухаў прэтэнзіі, прачытаў кнігу Гваньіні і… задаволіў скаргу. Гэта быў першы на Беларусі інцыдэнт змагання за аўтарскае права.

Праз чатыры гады ў Караляўцы (сучасным Калінінградзе) выйшла кніга самога Стрыйкоўскага «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» — першая друкаваная гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. Што тычыцца Гваньіні, то пасля суда той выехаў у Швецыю і пры жыцці Стрыйкоўскага не выдаваўся ні на Беларусі, ні ў Польшчы — толькі ў Германіі ды Італіі. Кніга італьянца выйшла ў Рэчы Паспалітай толькі ў у 1611 годзе, праз шмат часу пасля смерці апанента.

І выданне Гваньіні, і кніга Стрыйкоўскага 1582 года захоўваюцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы. Але калі Гваньіні дайшоў да нас амаль не чытаным, то Стрыйкоўскі быў запатрабаваны на працягу трох стагоддзяў. Адзін з чытачоў падпісаўся на кожным (!) аркушы кнігі: *«Osinski»*. Відаць, хацеў пакінуць максімум сведчанняў, што кніга належыць яму — на выпадак крадзяжу. Напэўна, гэты ж Асінскі пакінуў на палях некалькі прыказак, якімі адгукнуўся на гістарычныя падзеі, напрыклад: «Proditionem amo, proditorem odi» — «Люблю здраду, ненавіджу здрадніка». Пазнейшы чытач выказаўся дробным почыркам па кожным пытанні, узнятым у кнізе. Яго каментарыі маглі б стаць асобным творам!

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што сучасныя даследчыкі не падтрымліваюць абвінавачанні Стрыйкоўскага ў бок Гваньіні, адзначаючы, што запазычанні — звычайная справа для гуманістарыстыкі XVI стагоддзя. Маўляў, італьянец сваімі дзеяннямі не парушыў навуковую этыку эпохі. Але тым болей цікава, што нармальная звычайная для тых часоў практыка запазычання так закранула Стрыйкоўскага. Гэты гісторык значна апярэдзіў свой час: і ў падыходзе да гістарычнай навукі, і ў стаўленні да інтэлектуальнай уласнасці.

**Паліна СКУРКО**

**На фота: Заблудаўскае Евангелле вучыцельнае.**

# Нобель па-беларуску

**Апошнім часам у беларускай кніжнай прасторы актыўна рэалізуюцца розныя выдавецкія праекты, у тым ліку з'яўляецца шмат перакладаў з замежных моў. Прыкметна вылучаецца заснаваная сёлета серыя выданняў нобелеўскіх лаўрэатаў *«Noblesse Oblige»*, рэдактар якой — Сяргей Макарэвіч. Нядаўна пабачыла свет першая кніга серыі — «Голад» Кнута Гамсуна.**

У кнігу знакамітага нарвежскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры ў 1920 годзе, увайшлі тры раманы: «Голад», «Пан», «Вікторыя». Завяршае кнігу Нобелеўская прамова К. Гамсуна. Над перакладамі працавалі Лявон Баршчэўскі і Лідыя Ёхансэн, рэдактар кнігі Ганна Янкута. Падрыхтоўку серыі падтрымаў дабрачынны фонд «Вяртанне» мецэната Паўла Падкарытава (Бераговіча), а сайт электронных кніг *kniharnia.by* паралельна з папяровай будзе запускаць электронную версію.

Па-беларуску выходзілі асобныя пераклады набеліstаў. Стваральнікі і фундатары серыі *«Noblesse Oblige»* маюць на мэце гэты працэс унармаваць. У планах — выданне не толькі прызнаных класікаў сусветнай літаратуры, але і кнігі сучасных аўтараў, для выдання чыіх твораў патрэбна выкупаць аўтарскія правы. Дарэчы, праца над серыяй адкрытая, да яе могуць далучыцца патэнцыйныя фундатары — самі выберуць аўтара, а каманда праекта будзе наладжваць працу па падрыхтоўцы перакладу і ўсіх астатніх арганізацыйных момантаў.

Арганізатары праекта падкрэсліваюць, што серыя не будзе насычацца хутка. Пошук перакладчыкаў, падрыхтоўка перакладу, вырашэнне пытання з аўтарскімі правамі і пошук грошай на іх набыццё, падрыхтоўка макета — усё гэта займае багата часу. Але ўжо сёння можна назваць аўтараў, якія стаяць у лісце чакання (праца над перакладамі вядзецца, альбо скончаная, альбо існуе дамоўленасць з перакладчыкамі): Габрыэль Гарсія Маркес (Калумбія), Франц Сіланпяя (Фінляндыя), Архан Памук (Турцыя), Радзьярд Кіплінг (Вялікабрытанія), Томас Ман (Германія)...

Заканамернае пытанне: чаму першай кнігай *«Noblesse Oblige»* стаў менавіта «Голад» К. Гамсуна? Рэдактар серыі С. Макарэвіч адзначае, што была думка звярнуцца найперш да тых моў, перакладчыкаў з якіх у Беларусі мала. Нарвежская — акурат адна з такіх, менавіта таму першым у спісе апынуўся Гамсун.

Нягледзячы на тое, што годам заснавання серыі пазначаны 2017, ідэя нарадзілася на тры гады раней. Перашкодзілі запуску праекта пазалітаратурныя чыннікі. Ужо калі распачалася праца над перакладам кнігі Гамсуна, арганізатары паспрабавалі выкупіць правы на выданне «Каханне падчас халеры» Маркеса. Пераклад даўно падрыхтаваў Карлас Шэрман. Аднак спробы дамовіцца з іспанскім выдавецтвам, якому належаць аўтарскія правы на творы калумбійца, прывялі да працяглага ліставання. «Іспанцы падоўгу маўчалі. Ім нецікава працаваць з малымі накладамі. Тысяча асобнікаў па сённяшніх беларускіх мерках — гэта добры наклад. А для іх — мізэрны. У працэсе ліставання памёр і сам Маркес. Мабыць, гэта таксама паўплывала на нашыя перамовы: памёр лаўрэат — падвышаная ўвага да творчасці, выдавецтва можа зарабіць куды больш на краінах, дзе кніга выйдзе шматтысячнымі накладамі. У выніку мы агучылі суму, якую гатовыя заплаціць за аўтраскія правы, але адказу не атрымалі. У найбліжэйшы час паспрабуем вярнуцца да вырашэння гэтай праблемы. Пасля смерці Маркеса прайшоў пэўны час, магчыма, цяпер выдаўцы будуць больш




падатлівыя», — распавядаюць арганізатары праекта.

Сродкі на выхад першай кнігі збіралі праз краўдфандынг — практыка, даволі распаўсюджаная ў сучаснай выдавецкай прасторы. Акрамя фінансавай падтрымкі, выдаўцы атрымліваюць магчымасць аацаніць увагу чытачоў да тэмы: ці патрэбныя кнігі нобелеўскіх лаўрэатаў па-беларуску? Гамсун у гэтым плане — асоба ці не найбольш удалая: з аднаго боку, ён сусветна вядомы нарвежскі аўтар, але з другога — не такі папулярны, як сучасныя А. Памук ці С. Алексіевіч.

Выданне твораў нобелеўскіх лаўрэатаў па-беларуску бачыцца сапраўды актуальнай справай, хаця, вядома, шмат хто задасца пытаннем: навошта выдаткоўваць час, сілы і грошы на стварэнне беларускіх перакладаў, калі ўсе ахвотныя ўжо даўно маюць магчымасць прачытаць гэта па-руску? Стваральнікі праекта перакана累, што беларускі чытач павінен мець выбар, каго менавіта з нобелеўскіх лаўрэатаў пачытаць на роднай мове. І з гэтым цяжка не пагадзіцца.

**Падрыхтавала Жанна КАПУСТА**

# У чаканні прыўкраснага...

**...знаходзімся ўсе мы. Для адных гэта — зніжкі ў гіпермаркеце, для іншых — каханне на ўсё жыццё, а ёсць яшчэ такі від вар'ятаў, каторым найбольшае шчасце — добрая кніга.**

Але неабавязкова чакаць з мора пагоды: звычайнай практыкай стаўся калектыўны збор сродкаў на выданне кнігі. Так пабачыла свет першая беларускамоўная кніга пра кэралаўскую Алісу (пераклад Веры Жыбуль). Звычай такія зборы заканчваюцца паспяхова, і мы можам распавесці пра кнігі, якія чакаюцца сёлета (і, быць можа, з вашай дапамогай).

## «КЛІЧ КТУЛХУ»

Гэта першае выданне твораў Лаўкрафта па-беларуску. Перакладчыкі Уладзіслаў Гурыновіч, Павел Донай і Алесь Кудраўцаў узяліся выдаць першую на Беларусі кнігу класіка жахаў, перастварыўшы ягоныя творы «Алхімік», «Склеп», «Палярыс», «Каты Ултара», «Ньярлатхатэп», «Чужаніца», «Музыка Эрыха Цана», «Што прыносіць поўня», «Герберт Уэст, рэаніматар», «Ганчак», «Стоены жах», «Пацукі ў сценах», «Фэст», «Кліч Ктулху», «Натуршчык Пікмана», «Істота ў святле поўні». Усе яны будуць уключаны ў кнігу «Кліч Ктулху». Назва абрана ўдала: Ктулху — найбольш вядомая пачвара, створаная прыўкрасна-жахлівай фантазіяй Лаўкрафта. Цікава, што даследчыкі вылучаюць асобны паджанр — лаўкрафтаўскія жахі, сярод якіх цэнтральнае месца займаюць міфы Ктулху, дзе вусціш нязведанага суседнічае з фантасмагарычнымі апісаннямі выдуманых старажытных гарадоў, багоў і артэфактаў.




## З ГІСТОРЫІ НАПОЯЎ

Збор сродкаў абвешчаны на новую кнігу Кухмістра Верашчакі «Сакатала бочачка». Выданне прысвечанае гісторыі аўтэнтычных алкагольных напояў на беларускіх землях. Расцэньваць такое выданне як прапаганду алкаголя — цемрашальства ў крайняй ступені. Культура піцця — адзін з вызначальных складнікаў культуры ўвогуле. Згадаць тую вінную Францыю, піўную Германію... Беларусы таксама не лыкам шытыя — пра гэта аўтарытэтна сведчыць Кухмістр Верашчака. Кніга збірае ўнікальныя звесткі, на якія ніхто раней не звяртаў пільнай увагі, асабліва цікавы яе складнік — рэцэптурны, так што можна праводзіць эксперыменты проста ў сябе на кухні. Аўтар згадвае такія напоі, як крупнік і старка, шампанскае і такай, пітны мёд і розныя наліўкі ды настойкі, пшанічнае піва, самагон, а таксама распавядае пра экзатычны посуд для піцця.

Пры гэтым выдаўцы падкрэсліваюць літаратурны талент укладальніка: «Калі вы ўжо чыталі “Ліцвінскую кухню” або “Нашу Страву”, то ведаеце — аўтар піша так, што водары пачынаюць казытаць ваш нос ужо з самых першых старонак». Зноў жа, вельмі важна, што аўтар «разбурае міфы і стэрэатыпы, якія ўкараніліся ў нашым грамадстве вакол культуры піцця, і аднаўляе сапраўдную гісторыю, якая чытаецца як захапляльны дэтэктыў». Засталося дадаць, што сапраўднае імя аўтара — Алесь Белы. Ён беларускі гісторык, публіцыст, культуролаг, аўтар больш як ста нарысаў па гісторыі беларускіх страў і напояў, а таксама — кнігі *«Belarusian cook book»* (Нью-Ёрк, 2008).

## МЕМУАРЫ ЖАЎНЕРА

Хто такі Павал Нічыпарук? Імя наўрад ці вам знаёмае. Аднак праз лёс гэтага чалавека разгортваецца цэлая эпоха, лёс асобнага соцыуму, чыімі правамі і патрэбамі не надта цікавіліся. Кнігу ўспамінаў беларускага андэрсаўца Паўла Нічыпарука падрыхтаваў да друку гісторык Ігар Мельнікаў.

У кнізе хапае хаджэння па пакутах: несправядлівы суд, расстанне з сям'ёй, астрогі, этапы, ГУЛАГ, здзекі і пераадольванне сябе, спробы выжыць і адстаяць годнасць. А пасля — доўгія бадзянні па экзатычных для беларуса краінах, ваенная падрыхтоўка, крывавая бойня пад Монтэ-Касіна... Ігар Мельнікаў, папрацаваўшы над мемуарамі аднаго беларуса, які з ГУЛАГа трапіў у войска польскае, раскрыў цэлую старонку ў беларускай гісторыі. Старонку малавядомую: тысячы беларусаў былі вымушаныя назвацца палякамі, каб уцекчы ад магутнай, ганебнай марגінальнай смерці і ўстаць у шыхты войска польскага. Пра андэрсаўцаў за савецкім часам не казалі: нягледзячы на тое, што яны змагаліся з нацыстамі нароўні з іншымі, андэрсаўцаў лічылі ледзьве не за ворагаў народа. У часы галоснасці і свабоды слова многія факты займелі права быць агучанымі, і кніга «Адысея палешука» — адзін з прыкладаў плёну гэтых зменаў. «Адысея» змяшчае больш як 200 старонак цікавых гістарычных фактаў і асабістых перажыванняў героя. Тут навуковая дакладнасць спалучаецца з псіхалагічным складнікам, што робіць мемуары надзвычай займальнымі. Таксама выданне ўключае некалькі сотняў аўтэнтычных здымкаў з прыватнага архіва Ігара Мельнікава.




Цікава, што з гэтым рукапісам Нічыпарука яшчэ ў 1989 годзе азнаёміўся Васіль Быкаў. «Я прачытаў Вашыя мемуары. Несумненна, яны заслугоўваюць увагі. Трэба іх выдаць...» — пісаў ён сваяку жаўнера. Толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў мемуары знайшлі свайго даследчыка і цяпер маюць магчымасць пабачыць свет.

## МУЗЫКАНТ БЕЗ МУЗЫКІ

Некалькі кніг вершаў і прозы беларускіх аўтараў чакаюць чытацкай дапамогі, каб з'явіцца на свет. Першым згадаем зборнік апавяданняў «Сарабанда» Георгія Барташа, які сам аўтар называе самай трагікамічнай кнігай года. Ахвотна верыцца, калі згадаць іншую яго кнігу — паэтычны зборнік «Чаравічкі». Улічваючы, якія кантрасныя ацэнкі атрымаў зборнік, можна чакаць вялікую цікаўнасць да «Сарабанды». Барташ ціха пасміхаецца: «Як сказаў мой тата, “кніга добрая; аднак усе дурні Беларусі збягуцца, каб па ёй патаптацца”». Вельмі заманлівы анонс.




Структуру кнігі Георгій Барташ абраў фармальна-музычную. Музычную — бо такая назва і ўласна пабудова кнігі: тры часткі, як у санаце, — хуткая, марудная, хуткая. Фармальная — бо наўпраста да музыкі кніга не мае дачынення. «Сарабанда» ўключае тры дзясяткі маленькіх аповедаў, тэматычна разбітых на групы «пра жыццё», «гістарычныя», «пра смерць». Ужо ў самім падзеле вызірае непаўторная іронія аўтара. Мяркую, крытык чакае выхаду гэтай кнігі нават больш за чытача і нават родных аўтара кнігі.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Перспектыва — найцікавейшы закон

## паводле педагога Віцебскай мастацкай школы Фёдара Фогта

У лютым гэтага года ў Віцебскім мастацкім музеі адкрылася юбілейная выстаўка, прысвечаная 65-годдзю арганізацыі абласнога аддзялення Беларускага саюза мастакоў. Выстаўка прадставіла творчасць майстроў мастацтва вобласці трох пасляваенных пакаленняў. Датай арганізацыі рэспубліканскага саюза лічыцца 1938 год, яго філіі ў абласных цэнтрах рэспублікі як структурныя падраздзяленні пачалі ўтварацца пасля вайны. Віцебская арганізацыя канчаткова аформілася ў 1952 годзе. Аднак і 1938, і 1952 год — даты ўмоўныя, пазначаюць не першую спробу стварэння ў рэспубліцы творчага саюза мастакоў. Фактычна творчыя арганізацыі БССР распачалі дзейнасць нанова, пасля «нацдэмаўскага» разгрому 1937 года. Справа першапачаткова была распачата пасля вядомай пастановы ЦК КП(б)Б «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР» ад 27 мая 1932 г. і непасрэдна дала вынік у 1934 годзе. У снежні 1935 года віцебская філія Саюза савецкіх мастакоў БССР адкрывала справаздачную выстаўку у Мінску. Гэты факт сведчыць пра тое, што на той момант яна ўжо існавала. Сярод удзельнікаў выстаўкі 1935 года — віцебскія мастакі Іван Ахрэмчык, Хрыстафор Даркевіч, Валянцін Дзежыц, Леў Лейтман, Яфім Мінін, Юдаль Пэн, Фёдар Фогт, Уладзімір Хрусталёў.



*Ф. А.Фогт каля ўласнага твора. Віцебск. 1930 г.*

За рэвалюцыйным і міжваенным часам Віцебск меў актыўнае мастацкае жыццё. Пасля далучэння да БССР, у 1924 годзе, ён паступова пераўтвараўся ў правінцыяльны акруговы цэнтр, у якім, аднак, дзейнічала адзіная ў краіне спецыяльная мастацкая навучальная ўстанова — Беларускі мастацкі тэхнікум. Сталічны Мінск не адразу, але паступова пераймаў выпускнікоў і выкладчыцкія кадры, што было адной з галоўных праблем мясцовай школы і наогул любой правінцыяльнай.

Вельмі няпростая сітуацыя склалася ў 1927 годзе ў сувязі з задачай пашырэння напрамкаў падрыхтоўкі спецыялістаў. У гэты час Віцебскаму мастацкаму тэхнікуму былі востра патрэбны кваліфікаваныя педагогі для выкладання спецыяльных прадметаў. На пасаду выкладчыка жывапісу, малюнка і кампазіцыі прыйшоў Фёдар Адольфавіч Фогт, майстар, які адыграў у гісторыі тэхнікума 1930-х гадоў вялікую ролю, узяў удзел у стварэнні ва ўстанове паліграфічнага аддзялення. Аддзяленне ў перадваенныя гады падрыхтавала шэраг вядомых беларускіх мастакоў кнігі. Імя Фёдар Фогта стала ўвайшло ў гісторыю беларускага мастацтва 1930-х гадоў. Фёдар Фогт — найбольш значны педагог віцебскай школы, шматразова ўзгаданы ва ўспамінах яе вучняў. Шкада, што да сённяшняга часу яго творчая біяграфія напісана схематычна, а спадчына ў значнай ступені страчана...

Фёдар Адольфавіч Фогт нарадзіўся ў 1889 годзе ў Пецярбургу ў сям'і кіраўніка страхавога таварыства «Расія» Адольфа Оттавіча Фогта. Маці яго была дачкой англійскага дыпламата. Будучы мастак быў малодшым сярод дзяцей і меў чатырох старэйшых сясцёр. У Пецярбургу ён скончыў класічную гімназію, рыхтаваўся да паступлення ў Акадэмію мастацтваў. Першапачатковую падрыхтоўку Фёдар атрымаў у дзвюх вядомых сталічных прыватных мастацкіх школах Якава Гольдблата (1908 — 1909 гг.) і Міхаіла Бернштэйна (1909 — 1910 гг.). Абедзве яны былі арганізаваны паводле прынцыпаў акадэмічнай сістэмы выкладання. Школа Гольдблата наогул мела статус падрыхтоўчага класа акадэміі. Яшчэ адной ступенню падрыхтоўкі было навучанне ў прыватнай майстэрні акадэміка Дзмітрыя Кардоўскага, вучнем якога ён быў потым у Акадэміі мастацтваў. Праз сваіх настаўнікаў Фогт знаёміўся з сістэмай навучання славутага расійскага педагога і мастака Паўла Чысцякова. Гольдблат і Кардоўскі былі яго непасрэднымі вучнямі. У майстэрні Дзмітрыя Кардоўскага Фёдар Адольфавіч пазнаёміўся з будучай жонкай, таксама мастачкай Нінай Эрнэстаўнай, народжанай Вехтэрштэйн. Творчая манера Кардоўскага ў значнай ступені паўплывала на мастацтва сталага Фогта. Навучанне ў Акадэміі мастацтваў доўжылася з 1911 да 1915 года.

У летнія месяцы 1910 і 1913 гг. мастак ажыццявіў працяглыя паездкі за мяжу, наведаў Лондан, Парыж, Жэневу, Вену, Мюнхен, вандраваў па Італіі. У Жэневе ён браў урокі у майстэрні мастака Франсуа дэ Нерэ.

Закончыць мастацкую адукацыю ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, аднак, не давялося. Пачалася Першая сусветная вайна, і зімой 1915 г. Фогт быў прызваны на вайсковую службу. У складзе групы Ваенна-гістарычнай камісіі па даследаванні і скрыстанні доследу ваенных дзеянняў Фогт быў накіраваны на Каўказскі фронт, у раён Курдыстана, Эрзэрума і возера Ван. Жонка ў той час ужо выхоўвала сына і працягвала навучанне ў акадэміі, у майстэрні Кардоўскага. Аднак рэвалюцыйныя падзеі не дазволілі і ёй завяршыць вучобу. Увесну 1918 г. яна скончыла поўны акадэмічны курс і была дапушчына да конкурснай праграмы, але паўдзельнічаць у конкурсе на вышэйшую адзнаку акадэміі, залаты медаль, ужо не змагла, бо ў красавіку навучальную ўстанову ліквідавала бальшавіцкая ўлада.

Рэвалюцыя і грамадзянская вайна карэнным чынам змянілі жыццё мастака і яго сям'і. Да 1921 года Фогт праходзіў службу ў Чырвонай Арміі, займаўся, галоўным чынам, тэатральна-афарміцельскай справай у ваенным клубным тэатры. Пасля вайны шукаў працу ва ўмовах новага савецкага жыцця. Пра навучанне пасля вялікага перапынку не магло быць гаворкі. Мастакоўская дзейнасць была нерэгулярнай, спачатку Фёдар Адольфавіч разам з жонкай вымушаны былі працаваць на канцылярскай пасадзе. У асноўным ён займаўся тэатральна-афарміцельскай дзейнасцю, з 1924 года — на пасадзе мастака-дэкаратара Ленінградскага тэатра оперы і балета, потым ілюстраваў кнігі па дамовах для ленінградскіх выдавецтваў, у прыватнасці Лендзяржвыдавецтва і выдавецтва «Радуга», для якога стала працавала і жонка мастака, Ніна Эрнэстаўна.

У 1927 годзе ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме ўзнікла кадравая праблема. Шукаў выкладчыкаў спецыяльных дысцыплін у Маскве і Ленінградзе тагачасны дырэктар тэхнікума Міхаіл Керзін. Пасля доўгіх перамоў, кіруючыся акадэмічнымі задачамі выкладання, прапанова была зроблена мастаку Фогту. Рэкамендаваў Фёдара Адольфавіча яго былы настаўнік акадэмік Дзмітры Кардоўскі, а таксама былы сябра па акадэміі — у той час ужо дастаткова вядомы савецкі жывапісец Пётр Шухмін, таксама вучань Кардоўскага. Шухмін ведаў складанае прафесійнае і матэрыяльнае становішча Фогта. У лютым 1928 года Фёдар Фогт быў прызначаны на пасаду намесніка дырэктара тэхнікума па навучальнай рабоце, на якой заставаўся да 1934 года, і кіраўніка 3 курса Віцебскага тэхнікума.



*Фогт Ф. А. Карнавал. Змешаная тэхніка. 1935 г. Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.*

Таленавіты педагог і мастак, усебакова развіты чалавек, Фогт пакінуў незабыўны след у памяці былых вучняў, якім пашчасціла з ім сустрэцца. Узгадваецца ён ва ўспамінах аднаго з вучняў, вядомага беларускага мастака Яўгена Ціхановіча: «У яго перспектыва з сухой навукі ператваралася ў найцікавейшы і неабходны закон, без якога немагчымы ні жывапіс, ні графіка, не кажучы ўжо аб архітэктуры, — піша Ціхановіч. — Кожны ўрок Фёдара Адольфавіча не быў падобны да папярэдняга».

Значная заслуга Фогта — у арганізацыі паліграфічнага аддзялення мастацкага тэхнікума. У 1930 годзе яно пачало сваю работу, але трэба было стварыць матэрыяльную базу. Гэтым клопатам і быў заняты майстар. Фогт — нязменны педагог аддзялення, якое ў перадваенныя гады падрыхтавала шэраг таленавітых мастакоў, у ліку якіх Беньямін Басаў, Анатоль Волкаў, Лазар Ран, браты Валянцін і Яўген Ціхановічы. Вучнямі Фёдара Адольфавіча былі і вядомыя беларускія жывапісцы Натан Воранаў, Павел Гаўрыленка, Яўген Красоўскі, Уладзімір Кухараў, Мікалай Тарасікаў, Віталь Цвірка, Пётр Явіч, скульптар Сяргей Селіханаў, які ў перыяд навучання ў Віцебскім тэхнікуме займаўся пераважна жывапісам і графікай.

Фогт шмат самастойна творча працаваў у Віцебску: ствараў жывапісныя палотны, акварэлі, пасля доўна займаўся станковай і друкарскай графікай. Графічныя яго творы вызначаныя выразнай экспрэсіўнай манерай, незвычайнымі, арыгінальнымі ракурсамі ў пабудове кампазіцыі. Гэта тычыцца, у першую чаргу, станковых прац актуальнай тэматыкі. Да іх можна аднесці сангіну «Далорэс Ібаруры», малюнкі «Пакаранне венгерскага рэвалюцыянера Каламана Валіша» (1934 г.) і «Галодны паход» (1937 г.). Нярэдка графічныя творы Фогта выкананы ў складанай, змяшанай тэхніцы. Яскравы прыклад — работа «Карнавал» (1935 г.) са збору Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. У ёй скарыстаныя прыёмы акварэльнага і гуашавага жывапісу ў спалучэнні з пастэллю. Гэта практычна адзіны станковы твор Фогта, які захоўваецца ў зборах беларускіх музеяў на сённяшні час. «Карнавал» адрозніваецца пэўнымі дэкаратыўнымі якасцямі. Гэтая тэндэнцыя таксама адчуваецца ў многіх станковых і кніжных работах мастака, асабліва ранняга часу. Цікавыя работы кніжнай графікі — ілюстрацыі да «Рэвізора» Мікалая Гогаля (1935 г.), аўталітаграфіі да кнігі Роберта Браўнінга «Стракаты флейтыст» (1935 г.). На вялікі жаль, не захавалася да нашага часу серыя акварэляў архітэктурных матываў Віцебска.

Фогт браў актыўны ўдзел у выстаўках у Віцебску, Мінску, Маскве. Важкую ролю адыграла першая выстаўка віцебскай філіі Саюза савецкіх мастакоў БССР (1935 г.). У рэцэнзіі да яе мастацтвазнаўца Пятро Даркевіч адзначаў тонкія каларыстычныя якасці акварэляў Фогта. Мастак дэманстраваў свае працы на вялікай выстаўцы беларускага мастацтва ў 1935 годзе ў Маскве, а таксама на рэспубліканскай выстаўцы «БССР за 20 год» (1937 г.).

На працягу многіх гадоў творчая актыўнасць Фёдара Адольфавіча скоўвалася невылечнай хваробай. Нягледзячы на дрэнны стан здароўя, мастак не перапыняў працы да апошняга часу. 5 лістапада 1939 года Фёдар Фогт памёр ад сухотаў. Ён пахаваны ў Віцебску на Стара-Сямёнаўскіх могілках. Месца пахавання мастака адшукалі пасля вайны яго былыя вучні. Сёння там сціплы каменьчык з медальёнам, выкананым віцебскім скульптарам Аляксандрам Гваздзікавым. Клопат пра магілу былога педагога, прапанова ўвекавечыць яго імя мемарыяльнай дошкай на будынку даваеннага мастацкага тэхнікума — сведчанні адчування традыцыі мясцовай мастацкай школы сучаснымі творцамі Віцебска — горада з непарыўнай сувяззю мінулага і сённяшняга.

**Аляксандр ЛІСАЎ,**
**дацэнт кафедры ўсеагульнай гісторыі і сусветнай культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

# ТРАГЕДЫЯ: РЭСТАЙЛІНГ

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі ізноў радуе няпростым спектаклем. Востры, некамфортны «Сіндром Медэі» папаўняе скарбонку якаснага беларускага сучаснага тэатра, які не баіцца запэцкаць рукі ў часам такой малапрыемнай сучаснасці, прэпарыруе яе і, як той хірург, выразае пухліны. Толькі не ў целе, а ў нашай свядомасці. І толькі калі мы самі дамо згоду на такую аперацыю.

Вось толькі інструмент для аперацыі «Сіндром Медэі» абірае нязвыклы: спектакль пастаўлены ў жанры трагедыі, які сёння няచаста сустрэнеш на тэатральных падмостках. Размова ідзе не пра антычную трагедыю ці шэкспіраўскую, пастаўленую на сучасны лад. Да таго ж, такія звяртанні да класікі часта і ўвогуле нельга назваць трагедыяй, бо па-новаму могуць інтэрпрэтавацца сюжэты, героі, ад арыгінала могуць заставацца толькі рэшткі ці зусім нічога, жанравая прыналежнасць можа быць якой заўгодна. Не, «Сіндром Медэі» — гэта сучасная трагедыя, так пазіцыянуюць стваральнікі спектакля. Такой прэм'ера і атрымалася. Сучаснай трагедыяй, якая ўвабрала ў сябе асноўныя характарыстыкі жанру, аднак пры гэтым звярнулася да сучаснага, нават дакументальнага тэксту і да сучасных абставін, да таго ж адмяла знешнюю пафаснасць і надрыўнасць.

Прыкметы трагедыі тут навідавоку. У цэнтры спектакля — моцны герой, які ў барацьбе з грамадствам і самім сабою сутыкаецца з мноствам перашкод, мужна змагаецца, аднак у фінале немінуча прайграе (жанр абавязвае!). Да таго ж, мы з самага пачатку ведаем, які трагічны фінал — забойства дзяцей — нас чакае, ад чаго трагічнае напружанне на працягу дзеяння толькі ўзрастае. Карацей, усё па канонах жанру. Медэя-Марына, створаная аўтаркай Юліяй Чарняўскай і яскрава ўвасобленая на сцэне прымай РТБД Людмілай Сідаркевіч, супрацьстаіць грамадству, часам абыякаваму, часам агрэсіўнаму, часам неразумнаму. Прычым, у адрозненне ад эўрыпідаўскай Медэі (а на Эўрыпіда ў спектаклі спасылаюцца не раз), якая цалкам адказная за забойствы (бо і матыў жа яго зусім суб'ектыўны — рэўнасць, жаданне як мага мацней адпомсціць Ясону), Медэя дваццаць першага стагоддзя ідзе на забойствы пад уплывам грамадства, таму апошняе таксама вінаватае ў злачынстве. Нездарма ж на адзенні акцёраў — белы пыл ад разбітых статуэтак дзяцей. Забойствы ж маленькіх Медэя здзяйсняе не з-за жадання адпомсціць, а таму, што не бачыць будучыні для іх у сённяшнім эгаістычным, пустым свеце, дзе лайкі і перапосты важаць больш, чым шчырыя адносіны.

Таксама, згодна з канонамі жанру, мы спачуваем герaіні, глядзім на гісторыю яе вачыма, нават не зважаючы на яе ўчынак. А калі і не спачуваем, то спрабуем зразумець: Медэя выклікае не гнеў, а боль. Такое стаўленне да героя трагедыі традыцыйнае. Згадайма Макбета. Колькі на ім крыві, аднак ці выклікае ён у



нас нянавісць? Да таго ж Медэя-Марына, калі не звяртаць увагу на забойствы, ідэальная. Добрая маці, жонка, усім дапамагае ў сваёй фэйсбучнай групе «Сямейнае шчасце» (якая іронія!). У свеце, дзе ўсе жывуць ужо не па-сапраўднаму, выбіраючы віртуальнае замест рэальнага, разлік, пацеху замест кахання, толькі Медэя і застаецца сапраўднай у стаўленні і да сябе, і да іншых.

Галоўнай перашкодай, каб перанесці трагедыю на сучасную глебу, якраз і з'яўляецца немагчымасць стварыць такі маналітны, умоўна абагульнены вобраз і напружаныя канцэнтраваныя абставіны вакол яго. Дакладней, стварыць можна ўсё, вось толькі глядач у такую гісторыю проста не паверыць: няма, маўляў, у нашай рэальнасці такога. Нездарма ж трагедыя заўжды будавалася ці на міфах, ці на гісторыях, аддаленых ад гледачоў у часе або прасторы. З гэтай складанасцю спектакль спраўляецца лёгка: міф, нягледзячы на сучасны змест, у спектаклі ўсё ж такі прысутнічае. Дый і Медэя аддалена ад нас у прасторы: яна ж не беларуска, іншай крыві. Таму і вобраз яе, па сутнасці, нерэальны, можа пераканаць.

Таксама спраўляюцца стваральнікі спектакля і з яшчэ адной перашкодай — паэтычнай мовай трагедыі. Не павераць гледачы ў сучаснага героя, які размаўляе патэтычнымі вершамі. Так! Але ў «Сіндроме Медэі» замест іх — нармалёвая рэальная мова, набліжаная да вербацыму: тут табе і ненарматыўная лексіка, і сакавіты слэнг. Толькі мова Медэі часам аддае трагічным пафасам.

З перашкодамі, падаецца, разабраліся. Аднак гэта ўсё змест. Рэжысёрка ж Кацярына Аверкава яшчэ і выдатна папрацавала над формай. Манументальнасць трагедыі ў спектаклі ажыўляецца пры дапамозе акцёрскай гульні, пазбаўленай ненатуральных празмерных эмоцый, арыгінальнай пластыкі, музычных нумароў у выкананні саміх акцёраў, інтэрактыву, які максімальна набліжае аўдыторыю да сцэнічнай гісторыі. Традыцыйны для формы трагедыі хор не толькі захаваўся, але яшчэ і стаў мабільным (ён ператвараецца і ў фрэндаў з фэйсбуку). Дынамічны, запамінальны хор прыўнёс у спектакль ноткі вар'яцтва і гумару. Шмат у чым дзякуючы харэаграфіі Яўгена Карняга. Фрэнды, што сваімі рухамі нагадваюць дурных агрэсіўных курыц, — і смешна, і сумна, бо то ж… праўда.

Да формы, якая ні ў чым не саступае спектаклям больш папулярных сённяшніх жанраў, дадамо яшчэ і сатыру, якой у прэм'еры даволі шмат і якая яшчэ больш падкрэслівае трагічнае і надае гэтаму трагічнаму асаблівы пах. Ставім лайк, бо менавіта такога сатырычнага погляду на рэчаіснасць нашаму тэатру, як і нашаму грамадству ўвогуле, сёння бракуе. Ёсць, вядома, выключэнні (згадайма «Інтэрв'ю з вядзьмаркамі» таго ж Карняга), але іх няшмат. У большасці беларускі тэатр сур'ёзны, мо таму часта і занадта пафасны? Калі ж ён і звяртаецца да смеху, то гэта смех камедыйны, лайтовы — ха-ха, хі-хі і забылі. «Сіндром Медэі» звяртаецца да сацыяльна-сатырычнага смеху. Спектакль стварае цэлую галерэю вобразаў, з якіх варта смяяцца. Гэта і фрэнды, якія з трагедыі робяць нагоду для самапрэзентацыі, перапалак і перамывання костак. Гэта і Ясон, які паводзіць сябе як звычайны мужык, якому патрэбна звычайная баба. «Элементарная прылада», — кажа ён пра сябе. І бяда яго менавіта ў гэтай прастасці. Гэта і Маці Ясона, якая ўся — адна вялікая банальнасць і абмежаванасць. Гэта і Галя, для якой галоўнае — патусіць. Гэта ўсе, усе, усе. Можа падацца, што такое мора сатыры ў трагедыі не да месца. Але ж не, менавіта яна і дапамагае створанай сучаснай трагедыі стаць актуальнай, максімальна набліжае яе да рэчаіснасці, а гледачоў — да спектакля.

Здавалася б, гуд, сучасная трагедыя на аснове нашага рэальнага жыцця не толькі магчымая, але ж яшчэ і спрацоўвае. Яна кранае сучаснага гледача, галоўнае ж — прымушае ў наш несур'ёзны век (пагодзімся са спектаклем) сур'ёзна задумацца пра высокія матэрыі. Аднак ёсць ва ўсім гэтым нейкая закавыка, што не дае спакою. Як у тым выдатніку: адныя дзясяткі ў яго, дый што з табой не так, дружа? Ці можна быць такім ідэальным? Дый навошта? Жыццё ж, яно, ведаеш, не такое адназначнае, чорна-белае. Так і з «Сіндромам Медэі». Усё тут па палічках расстаўлена, мараль гэтай байкі зразумела. Аднак хочацца, каб да чорнага дый белага дадаўся б яшчэ і шэры, жоўты, ружовы, розны. Забіць дзяцей, каб тыя не жылі ў гэтым малапрыемным свеце, — нармалёва для трагедыі. Аднак ці нармалёва гэта для трагедыі на аснове сучаснага матэрыялу? Пытанне адкрытае.

**Паліна ЛІСОЎСКАЯ**

# У свеце індывідуальнасцей

## Казка асаблівага хлопчыка ў дзіцячым спектаклі «Чыгунка»

Тэатр, бы акцёр, таксама выконвае ролі. Як і ўсялякае мастацтва, тэатр — інструмент для самавыяўлення, і ад чалавека залежыць, як яму працаваць. Ён можа быць надзейным прытулкам для летуценнікаў, сродкам пазбягаць рэчаіснасці ў надзвычайным, далёкім ад будзённасці, свеце. Ён можа стаць лекамі, што ўзмацняюць, паказваюць жыццёвую праўду, ачышчаюць душу праз катарсіс. Сямейны інклюзіў-тэатр «і» выкарыстоўвае сцэнічнае мастацтва як дзейсную тэрапію, якая дапамагае дзецям, хворым на аўтызм, наладжваць стасункі з равеснікамі, а астатнім удзельнікам студыі — вучыцца талерантнасці ды раўнапраўю.

Мюзікл «Чыгунка» — спектакль, у аснове якога — казка незвычайнага хлопчыка Кастуся Жыбуля. Гісторыю пад назвай «Сабачая чыгунка» ён прыдумаў яшчэ ў 9 год. Пачалося ўсё са звычайнага малюнка, які з цягам часу ператварыўся ў казку, а пасля — у п'есу. Не абышлося без дарослых: стварыць з дзіцячай казкі мюзікл хлопчыку дапамаглі бацькі — літаратары Вера і Віктар Жыбулі.

— У Кастуся велізарная колькасць гісторый, але казка «Сабачая чыгунка» для яго асаблівая, — кажа паэтэса Вера Жыбуль. — Гэта гісторыя пра сабачак, што ратуюць з бяды на чыгунцы ўсіх жывёл: лечаць параненых, знаходзяць тых, хто згубіўся. З казкай «Сабачая чыгунка» мы занялі адно з прызавых месцаў на конкурсе творчых работ Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы «Купаланяты». Для Кастуся важна разумець, што яго казкі цікавыя, іх чытаюць і нават ставяць у тэатры.

У стварэнні мюзікла ўдзельнічалі ўсе дзеці з Сямейнага інклюзіў-тэатра «і». Яны не толькі выйшлі на сцэну ў якасці акцёраў, але і дапамагалі рабіць касцюмы, дэкарацыі, музыку. Падчас спектакля цяжка сказаць, хто з дзяцей хворы на аўтызм, — перад гледачом паўстаюць таленавітыя хлопчыкі і дзяўчынкі, кожны са сваёй творчай індывідуальнасцю.

Сямейны інклюзіў-тэатр «і» ўжо мае досвед у падрыхтоўцы спектакляў. За год да «Чыгункі» яны выйшлі да гледача з мюзіклам «Флейта-чарадзейка». «Сёння можна сказаць, што наш тэатр з'яўляецца не толькі мадэллю пабудовы інклюзіўных адносін, рупарам, які асвятляе праблему аўтызму, але таксама і жывым увасабленнем сацыяльнай інклюзіі на прыкладзе дапамогі канкрэтным сем'ям і дзецям з аўтызмам», — кажуць арганізатары праекта на ўласным сайце. Сапраўды, у маленькім тэатральным свеце ўстойліва працуе мадэль грамадства, жыццядзейнасць якога арганічна ўключае любога маленькага чалавека незалежна ад яго асаблівасцей. Дзяцей нароўні вучаць акцёрскаму майстэрству, сцэнічнай прамове, харэаграфіі, вакалу. Прадзюсар тэатра Леанід Дзінэрштэйн кажа, што пасля першай



Фота Марыны Сіманавай.

*Кастусь і Вера Жыбулі пасля прэм'еры п'есы «Чыгунка».*

пастаноўкі яны ўбачылі маленькі цуд: відавочныя змены ў паводзінах кожнага з дзяцей. Да такога эфекту вядзе сур'ёзная праца і збалансаваная колькасць навучэнцаў. Даказана, што для найлепшай сацыялізацыі ў дзіцячым калектыве павінна быць не больш як 15% дзяцей з асаблівасцямі. Менавіта такі сімбіёз дае гарантаваныя і нават фантастычныя вынікі.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# КІРАВАЦЬ КАМЕРАЙ

## Бачанне айчыннага кінематографа кінааператарам Дзмітрыем Рудзём

**Амаль заўсёды, калі стужка атрымалася, лаўры атрымлівае рэжысёр. Праца здымачнай групы часцей за ўсё застаецца па-за кадрам, але менавіта сіламі цэлай каманды і ствараецца кіно. Адной з такіх нябачных, але вельмі важных у кіно прафесій з'яўляецца аператарская. Дзмітрый Рудзь у ёй амаль з дзяцінства, і вось ужо дзесяць год працуе аператарам-пастаноўшчыкам на кінастудыі «Беларусьфільм». За яго плячыма — 7 поўнаметражных стужак і праца на кінаальманаху «Мы», які гледачы ўбачаць толькі ўвосень.**

**— Вашы маці і бацька звязаныя з кіно. Але ці гэтым быў абумоўлены выбар аператарскай прафесіі?**

— Так, я сапраўды вырас у кінематаграфічнай сям'і і, канечне, калі быў маленькім, прысутнічаў на здымках. Маці працавала асістэнтам рэжысёра, а бацька — аператарам, таму на студыю я трапляў. Маці хацела, каб я быў мастаком (да гэтага меліся дадзеныя). З прафесіяй я вызначыўся дзесьці ў 16 гадоў. Займаюся мастацтвам і цяпер, але на той момант, калі трэба было вызначыцца, я выбраў кінематограф. Хацеў паступаць ва ВГІК, але трапіў у Акадэмію мастацтваў на курс А. Суханавай, і не шкадую. Што да малявання, то да яго я вярнуўся: сумяшчаю кіно з жывапісам. Але кінематограф — гэта прафесія, а жывапіс у мяне — больш на індывідуальным узроўні.

**— Пасля школы вы працавалі з бацькам. Якія ўспаміны і парады захаваліся з тых часоў?**

— Я адчуваў вялізны ўплыў бацькі: працаваў у яго здымачнай групе асістэнтам 9 гадоў. Канечне, бацька даваў мне парады, даваў здымаць, дазваляў працаваць са святлом, хоць гэта не было самастойнай здымкай: ён заўсёды наглядаў за мной. У асноўным я рабіў тое, што трэба было бацьку. Многім рэчам вучыўся на пляцоўцы: карыстацца экспанометрам, зараджаць плёнку ў касеты. Памятаю, як Дзмітрый Зайцаў запрасіў мяне здымаць карціну «Зграя», што стала маім дэбютам. Бацька ўпершыню паглядзеў матэрыял, калі мы скончылі здымкі, і сказаў толькі адно: што я ўдала высвятліў гераіню ў адным з эпізодаў, а так звычайна ён маўчаў.

**— Першую поўнаметражную стужку вы знялі ў 26 гадоў, пасля вас адразу запрасілі на наступны праект. У такім маладым узросце вы паспелі папрацаваць ужо на некалькіх буйных фільмах...**

— Так, пасля «Зграі» рэжысёр Віталь Дудзін запрасіў мяне здымаць «Кадэт». Калі я вучыўся ў інстытуце, то рыхтаваўся да таго, што давядзецца чакаць пастаноўкі вельмі доўга, мне будзе каля 40. Я разумеў сітуацыю: працы мала, затое канкурэнцыя вялікая, таму ніякіх фантазій на гэты конт не было. Я сапраўды рыхтаваўся да чакання, але надзея на ўдачу была, і ў 26 гадоў ёй стала стужка Зайцава, вялікая падзея. Мне здаецца, ён моцна рызыкаваў. Больш надзейна, спакойна было б узяць дасведчанага аператара, але ён паглядзеў мае студэнцкія работы і запрасіў. Мы працавалі над сцэнарыем, знялі фільм. Вельмі добрыя ўспаміны з тых часоў, і я ўдзячны Зайцаву за гэты ўчынак, бо менавіта ён даў мне дарогу ў вялікае кіно.

**— Як лічыце, ад чаго залежыць поспех працы здымачнай групы?**

— Тое, якім будзе фільм, залежыць ад рэжысёра. Я не супраць яго дыктату, бо ў любым выпадку менавіта ён ставіць першую літару і апошнюю кропку ў стужцы, гэта самая важная ў кіно фігура. Вялікае значэнне маюць адносіны ў камандзе: калі ёсць агульная мова, давер і ўзаемаразуменне, то, нягледзячы на цяжкасці, усё пройдзе добра. Але можна не знайсці гэтую мову, бо падабраць аўтараўаднадумцаў — вялікая праблема. Думаю, усе выбітныя кінатворы, якія мы ведаем, якія вывучаюцца, былі знятыя менавіта аднадумцамі. Звычайна, калі гэта не так, нехта з карціны сыходзіць — бачанне ў рэжысёра і аператара павінна быць аднолькавае, інакш трэба шукаць кампраміс. У кіно такое існуе, але гэта кампрамісы іншага плана: у нас ёсць ідэі, але па розных прычынах спрашчаць мы іх павінны, — вось і кампраміс. Калі казаць пра мае пастаноўкі, то пакуль канфліктаў не было.



*Дзмітрый Рудзь на здымках фільма «Кіндэрвілейскі прывід» (рэж. А. Турава).*

**— У фільмах сапраўды ўсё асэнсавана?**

— Звычайна акцэнты робіць рэжысёр. Прынята лічыць, што лішніх дэталяў быць не павінна — кожная з іх мае быць асэнсаванай, няма месца выпадковасці. Дэталі ў кіно заўсёды маюць сэнс.

**— Вы працавалі з фільмамі розных жанраў. А якія здымкі былі самымі запамінальнымі?**

— Цёплыя ўспаміны пра кожныя здымкі, бо гэта мая біяграфія. Але галоўнае — яны ўсе розныя, пакуль што не было паўтораў. Дзіўна было назіраць, калі я працаваў з адной і той жа здымачнай групай, але ўсё было па-іншаму. Напрыклад, мы здымалі «Кадэта», пасля — «На ростанях». Нават месцы, дзе здымалі, былі тыя ж. Але, напэўна, сцэнарый дыктуе свае асаблівасці. Здымкі кожнай карціны — гэта адмысловы ўспамін, таму цяжка сказаць, што ўзгадваецца больш.

**— У вас ёсць досвед працы і з дзіцячым кіно. А як адрозніваюцца здымкі фільмаў для дзяцей і для дарослых?**

— Я працаваў на трох карцінах для дзяцей, і па здымках яны не лягчэйшыя за звычайнае кіно! Думаю, стужкі для дзяцей многімі недаацэньваюцца: у працы над дзіцячым фільмам можна рабіць складаныя рэчы, але гэта не будзе заўважана. Я ведаю, што гэта несправядліва, але пра такое казаў яшчэ Нячаеў. Я таксама з гэтым сутыкнуўся, таму згодзен з яго думкай. Заўважаю, што нават прафесійныя кінематографісты схільныя крыху прыніжаць дзіцячае кіно, але ж з дзецьмі працаваць вельмі складана! Яны хутка стамляюцца, як правіла, яны не прафесійныя акцёры, у іх не хапае досведу. У «Кіндэрвілейскім прывідзе» многія дзеці здымаліся ўпершыню. Канечне, рэжысёр Алена Турава працавала з імі, але ўсё роўна гэта было складана.

**— У кожнай работы свае асаблівасці і складанасці. Якія яны ў вашай прафесіі?**

— Мне падабаецца, што я ўплываю на тое, што ўбачыць глядач. Натуральна, што я ўплываю на выяўленне: я бачу тое, што здымаю, па-свойму. Але падчас здымак я не думаю пра гэты ўплыў — усё адбываецца само сабой. На першым месцы для мяне — святло, гэта вельмі важна, і ўся мая работа будуецца ад працы са святлом — менавіта яно мяне натхняе, яно самы складаны і самы важны выяўленчы сродак. Таксама я заўсёды думаю пра адказнасць — у адносінах да гледача і рэжысёра. Усё ж кіно — творчасць калектыўная, на яе працуе ўся група, ад гэтага адказнасць яшчэ большая. А самае складанае, паўтаруся, — знайсці паразуменне з рэжысёрам.

**— Ці атрымліваецца глядзець кіно як аматар або вы вучыцеся падчас кожнага прагляду?**

— Я гляджу кіно як звычайны глядач. Думаеце, прафесія накладае адбітак і на вольны час? Безумоўна, я звяртаю ўвагу на аператарскую працу ў стужкы, але наогул мне цікавая гісторыя, атмасфера фільма, яго ідэя і сэнс. Але я люблю вучыцца ў аператараў, хоць самы ўплывовы аператар для мяне — бацька. Большага ўплыву ніхто не зрабіў, бо бацька — чалавек рэальны, ён побач. Канечне, каб навучыцца, трэба глядзець фільмы, углядацца. Асабліва люблю пераглядаць старыя фільмы. І з кожным праглядам, калі гэта выбітное кіно, адкрываю нешта новае і важнае.

### Аматарам прыгожага кіно Дзмітрый Рудзь раіць:

- з беларускага кіно: «Плач перапёлкі», «Воўчая зграя», «Трэцяя ракета», «Я родам з дзяцінства»;
- з савецкага кіно: усе фільмы Таркоўскага, Эйзенштэйна, «Ляцяць жаўрукі» Калатозава, «Цені забытых продкаў» Параджанава;
- з замежнага кіно: «Ран» і «Расёман» Курасавы, «Зямля дрыжыць», «Рока і яго браты» Вісконці, «Ноч» і «Зацьменне» Антаніёні, «Восем з палова», «Амаркорд», «Дарога» Феліні.

**— Якая ў вас кінематаграфічная мара? З кім папрацаваць, што зняць?**

— Калі б мне было 17, я б, напэўна, адказаў!.. Мне б хацелася працаваць у розных жанрах — нягледзячы на тое, што на дадзены момант удзельнічаў у здымках 7 стужак, я не хацеў бы абмяжоўвацца нейкім адным жанрам. Мая прафесія менавіта гэтым і добрая: яна розная ў жанравым сэнсе. Я ўжо крыху здымаў дакументалістыку, калі працаваў на «Белвідэацэнтры»: мы знялі там некалькі неігравых фільмаў, але гэта былі стужкі тэлевізійнага фармату. Таму сапраўдная дакументалістыка мне цікавая. А што да рэжысёраў, я б хацеў папрацаваць з Параджанавым, калі гэта было б магчыма, з маім сябрам Алі, з якім мы разам здымалі стужкі, калі былі яшчэ студэнтамі.

**— Кінематограф хутка змяняецца. Што новага ў аператарскай працы?**

— Адчуваецца, што модна здымаць на тэлефоны і фотаапараты. Але мне здаецца, што гэта абумоўлена немагчымасцю здымаць на прафесійную тэхніку, бо яна вельмі дарагая. З іншага боку, калі няма іншай магчымасці, то чаму б і не? Я б не казаў, што гэта прарыў, на мой погляд — гэта кампраміс, і ніякіх ілюзій тут быць не павінна. Калі я вучыўся, то здымаў за свае сродкі, студэнцкія працы не фінансаваліся, і мы карысталіся тым, што было ў акадэміі. Зараз, канечне, карыстаюцца і фотаапаратамі, бо гэта рэальная магчымасць зняць. А вось яшчэ адна тэндэнцыя: некалькі гадоў таму «Беларусьфільм» перайшоў на лічбавыя камеры з плёнкі. Многія спрабуюць параўноўваць, што з гэтага лепш, а што — горш. Думаю, гэта не вельмі правільна: плёнка дае выяву іншага характару, на яе здымаюць дагэтуль, толькі не ў нас. І ў плёнкі ёсць галоўная перавага: усе выбітныя кінастужкі знятыя менавіта на яе. Даўно вядуцца размовы пра тое, што плёнка памрэ, але не думаю, што так станецца.

**— Апошняя ваша праца — «Сляды на вадзе». Стужку здымалі за вельмі хуткія тэрміны. Якая атмасфера панавала на пляцоўцы?**

— Гэта ўжо мая другая карціна з Анісімавым (мы здымалі разам «Неверагоднае перамяшчэнне»). На «Слядах на вадзе» была выдатная атмасфера і група. Я не першы, хто кажа пра гэта, усе рабілі сваю справу прафесійна і адказна. Мая гісторыя такая, што я прыйшоў на праект як другі аператар, калі стужку павінен быў здымаць Ягор Канчалоўскі. Але сталася так, што я стаў аператарам-пастаноўшчыкам. І скажу, што, каб у нас было крыху больш часу, асабліва на каскадзёрскія сцэны, атрымалася б намнога лепш, я ўпэўнены.

**— Зараз на «Беларусьфільме» вы працуеце над альманахам. Што гэта за праект?**

— Кінаальманах называецца «Мы» і складаецца з 5 кароткаметражных навел. Я працую на трох з іх. Усе рэжысёры — дэбютанты, хтосьці ўжо скончыў, хтосьці заканчвае Акадэмію мастацтваў. Пакуль я зняў адну стужку, наперадзе — здымкі наступных двух фільмаў. А наогул стужкі пра рознае: тут і гісторыя былых закаханых, і драмы, і нават стужка пра рэпера.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ІМЯ, ШТО НАС ЗВЯЗАЛА

## Асобы і ўдзельнікі Першага маладзёжнага форуму сімфанічнай музыкі

Значнай падзеяй у музычным жыцці Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі стала адкрыццё Першага маладзёжнага форуму сімфанічнай музыкі — плён міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне культуры і мастацтва. У вялікай зале каледжа амаль не было свабодных месцаў. Усе чакалі сустрэчы з творчым калектывам сімфанічнага аркестра з Расіі, які ўпершыню завітаў у нашу краіну: артыстам давялося ехаць больш за 800 км з г. Новамаскоўска Тульскай вобласці, адкуль бярэ пачатак магутная рака Дон, усе яны з цікавасцю і натхненнем чакалі сустрэчы са слухачамі, што сабраліся ў канцэртнай зале каледжа.

— Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М. І. Глінкі з'яўляецца заснавальнікам многіх гарадскіх конкурсаў, мерапрыемстваў, харавых праектаў, у тым ліку і міжнародных. Сёлета мы ладзім першы маладзёжны форум сімфанічнай музыкі, дзе возьмуць удзел нашы госці з Новамаскоўскага музычнага каледжа імя Міхаіла Глінкі, з якім у нас заключаны дагавор аб узаемным творчым супрацоўніцтве, — адзначыў Уладзімір Чэрнікаў, дырэктар беларускай навучальнай установы. — Хвалююча і ў той жа час прыемна, што мы становімся сведкамі такога ўрачыстага мерапрыемства, у якім змогуць браць удзел у далейшым і іншыя навучальныя ўстановы.

На сёння Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М. І. Глінкі наладзіў шэраг кірункаў узаемнага творчага супрацоўніцтва з установамі сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў Маскве, Пскове, Вялікім Ноўгарадзе, Арле ды іншых гарадах Расійскай Федэрацыі.

Асноўная мэта форуму — умацаванне культурнага беларуска-расійскага супрацоўніцтва, захаванне і папулярызацыя сімфанічнай музыкі. Форум аб'яднаў не толькі музычныя каледжы, аматараў мастацтва, але і вядомыя калектывы Беларусі і Расійскай Федэрацыі. Адкрыла імпрэзу выступленне струннай групы



*Выступленне дырэктара Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі — У. М. Чэрнікава.*

сімфанічнага аркестра Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі, мастацкі кіраўнік і дырыжор якога — Мікалай Макарэвіч. У праграме аркестра прагучала музыка П. І. Чайкоўскага, Ж. Бізэ, Р. Шчадрына, С. Вайценкі і сучаснага польскага кампазітара В. Кіляра. Выступленне сімфанічнага аркестра нікога не пакінула абыякавым: пакарыла харызма дырыжора, яго бліскучая дырыжорская тэхніка, унікальная інтэрпрэтацыя музыкі вялікіх і сучасных кампазітараў. З'яўляючыся дырыжорам сімфанічнага аркестра з 2007 года, Мікалай Макарэвіч дасягнуў высокага прафесіяналізму выканальніцкага майстэрства навучэнцаў-аркестрантаў і працягвае ўдасканальваць узровень на вялікіх сцэнах у Беларусі і за мяжой. Разам з аркестрам твор сучаснага расійскага кампазітара С. Вайценкі «Элегія для баяна і струннага аркестра» выканаў адзін з лепшых баяністаў каледжа, лаўрэат міжнародных конкурсаў Ілья Шуста (клас выкладчыка У. Л. Гурба-Новіка).



*Саліст Новамаскоўскага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі, лаўрэат міжнародных і ўсерасійскіх конкурсаў Арыф Гамзаеў.*

Далей на канцэртнай сцэне ўладарылі аркестранты сімфанічнага аркестра Новамаскоўскага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі, лаўрэата прэміі Цэнтральнай федэральнай акругі ў галіне літаратуры і мастацтва ў намінацыі «За дасягненні ў галіне музычнага мастацтва». За пульт стаў мастацкі кіраўнік і дырыжор, дырэктар Новамаскоўскага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі Аляксандр Скудной. У выкананні аркестра прагучала музыка М. І. Глінкі, яго ўверцюра з оперы «Руслан і Людміла», вядомыя танцы «Вальс» і «Кракавяк» з оперы «Іван Сусанін», а таксама музыка П. І. Чайкоўскага з балета «Лебядзінае возера», творы М. Агінскага, А. Хачатурана, І. Штрауса. Разам з аркестрам прадставіў сваё майстэрства юны скрыпач Новамаскоўскага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі, лаўрэат міжнародных і ўсерасійскіх конкурсаў Арыф Гамзаеў.

Нягледзячы на кароткі прамежак часу, у які адбываўся Першы маладзёжны форум сімфанічнай музыкі, ён набыў рэпутацыю адной з ключавых падзей музычнага жыцця Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. Глінкі. Амаль 70 гадоў падзяляюць гісторыі стварэння двух аркестраў, што выступалі перад аўдыторыяй, ды аб'ядноўвае іх непадзельная любоў да музыкі вялікага кампазітара М. І. Глінкі, які родам са Смаленшчыны. Нездарма дырыжор Аляксандр Скудной падкрэсліў: «М. І. Глінка — гэта выдатнае імя, якое нас звязала».

Вытокі музыкі М. І. Глінкі вядуць у народную творчасць. Любоўю да радзімы, яе народа, да прыроды прасякнуты лепшыя яго творы. Музыку М. І. Глінкі ведаюць і любяць у многіх краінах свету.

**Наталля КАРДАШОВА**

# Голас зямлі

## Як беларуская дуда яднае слухачоў

Раней дударства было звычайнай справай у беларускай культуры — да сярэдзіны XX стагоддзя дуда наогул была самым папулярным інструментам і выкарыстоўвалася паўсюдна, хутка яна стала візітоўкай нашай краіны і прадстаўляла Беларусь нават на міжнародных конкурсах. Але сёння ў Беларусі не засталося аўтэнтычных дудароў — ад традыцыі захаваўся толькі адзін нотны запіс ігры на дудзе, але адраджэнне дударскага духу набывае новую моц дзякуючы намаганням этнографаў, гісторыкаў і апантаных людзей. Менавіта з іх падтрымкай у беларускай сталіцы раз на 2 гады ладзіцца «Дударскі фэст», які прайшоў на мінулым тыдні.



*Падчас фэстывалю.*

Першы фэст адбыўся 25 гадоў таму — сёлета свята дудароў стала юбілейным, таму і асаблівым: гэта не толькі шчырае вяртанне традыцыі, але і вар'яцкае містычнае дзеянне, і сакральны абрад, і нястрыманы шаманізм, як адзначаюць арганізатары мерапрыемства. Кожны раз «Дударскі фэст» прытрымліваецца адной мэты — прывіць моладзі любоў да беларускага, пазнаёміць з традыцыямі і паказаць магутнасць айчыннай дуды. Але сёлета мерапрыемства наведалі не толькі маладыя — было шмат прадстаўнікоў і больш сталага ўзросту, а асабліва ўсцешна, што паслухаць беларускую дуду прыехалі і замежнікі, якія здзіўляліся неверагодным спалучэнням традыцыйных і нават «металічных» гукаў.

І сапраўды, гучанне дуды настолькі пранізлівае, кранальнае, што яе ўздзеянне на эмоцыі цяжка пераацаніць — менавіта таму зараз вырашаецца пытанне ўключыць традыцыі беларускай дуды ў спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва ЮНЕСКА. Наогул дуду ў Беларусі стараюцца падтрымліваць, наколькі гэта магчыма: створаны «Дударскі клуб», выходзіць альманах «*Dudar*», з'яўляецца ўсё больш таленавітых майстроў. «Дударскі фэст» займае асобнае месца.

Сёлетняе мерапрыемства запомніцца разнастайнасцю выступоўцаў: на сцэне з'яўляліся «Стары Ольса», *PAWA, HardWood, TROLLWALD, SAKRAMANT, Lity Taler, PiobROCK.*

«Стары Ольса» — гурт-хэдлайнер фестывалю, які толькі што вярнуўся з гастроляў па ЗША — там музыканты прадставілі свой альбом «*Medieval Classic Rock*», а таксама беларускую музычную спадчыну Сярэднявечча. Гэта надало асаблівай значнасці выступленню калектыву на радзіме, бо зусім нядаўна беларускую дуду слухалі ў Амерыцы! Канечне, ці магчыма было абысціся без вядомых «Ліцвіна», «Маразулі» і «Карчмы», «*Highway to hell*» у аранжыроўцы народных інструментаў і сярэднявечных танцаў?

Раней дуда лічылася выключна мужчынскім інструментам, але паступова з'явіўся трэнд на дзяўчын-дударак. З адной з прадстаўніц дударскага майстэрства Аксанай Мароз можна было пазнаёміцца падчас выступлення гурта *PiobRock*, дарэчы, калектыў прадставіў і еўрапейскі ўзор нашага народнага інструмента і выканаў ірландскія балады, хіты *AC/DC* і *Nirvana. Lity Taler* дадаў да фэсту крыху танцаў: гурт выконвае музыку, якая падабаецца наведвальнікам рыцарскіх турніраў і гучыць вельмі цёпла, таму і знаходзіць водгук у слухача. Тэму танцаў працягнулі і музыканты *Hardwood* — рытмічныя кампазіцыі, фолк-фэнтэзі, як вынік — скокі і танцы ад удзячнай публікі.

Сучаснае гучанне дудзе надалі музыканты гурта *PAWA*: тут можна было пачуць электронна-бітавыя апрацоўкі народных мелодый кшталту «Цяцеркі» і «Кракавяка», гімн «Дуднік» і яшчэ шмат пазітыўных і незвычайных аранжыровак. У заканчэнне «Дударскага фэсту» адбыўся *metal*-батл паміж удзельнікамі гуртоў *Sakramant* і *Trollwald*: слухачы аднолькава віталі кампазіцыі абодвух гуртоў, нават ведалі словы іх песень, таму і бітва атрымалася мірнай і аптымістычнай, стала сімвалам вечнага жыцця беларускай дуды.

Адзін з арганізатараў «Дударскага фэсту» Зміцер Сасноўскі трапна зазначыў, што дуда сёння — гэта не проста музычны інструмент: «...Душа нашага народу. Гэта голас самой нашай зямлі. Гэта шалёны подых усіх піроў і карчомных вечарын. Візгат старых танцаў і пранікнёнае гучанне абрадавых спеваў. Голас пахаванняў і развітання з загінулымі сябрамі. За сотні і сотні гадоў». Традыцыя, якую зберагаюць беларусы з далёкіх стагоддзяў, пачынае вяртацца ў наш культурны кантэкст, бо яна можа быць сучаснай і блізкай кожнаму пакаленню.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Стаўка на сучаснікаў

**Час не ўладарыць над сапраўднымі каштоўнасцямі… Гэты тэзіс, што актыўна круціўся на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, укараніўся ў свядомасці і дапамог больш глыбока асэнсаваць само паняцце «каштоўнасць»: хоць і паходзіць яно ад слова «кошт», але не ўсё магчыма вымераць грашыма, гэта па-першае, а ёсць рэчы наогул бясцэнныя, гэта па-другое. І трэцяе: сапраўдныя каштоўнасці з гадамі толькі растуць у цане. Гэтым кіруюцца ў наш час тыя, хто імкнецца сваё рэальнае матэрыяльнае багацце (у грашовым вымярэнні) не проста захаваць, а памножыць (у вымярэнні духоўным). Як гэта бывае, можна пабачыць у галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, дзе працуе вернісаж твораў сучасных беларускіх мастакоў са збору ААТ «Белінвестбанк».**

Сусветныя карпарацыі і бізнес-структуры фарміруюць свае карпаратыўныя калекцыі, кіруючыся нейкай вызначальнай рысай ці прынцыпам, інвестуюць у мастацтва. Практыка арганізацыі карпаратыўных калекцый у Беларусі дала парасткі: тры буйныя банкі збіраюць карпаратыўныя калекцыі, у якіх знаходзіць водгук як мінулае беларускага мастацтва, так і яго цяперашні дзень. Вядома, творы належаць уласніку, але свае калекцыі ўладары не хаваюць, робяць даступнымі для ўсіх праз мастацкія выстаўкі. Пагадзіцеся, цікава ведаць, творы каго з нашых сучаснікаў палічылі каштоўнымі.

Усяго збор твораў мастацтва Белінвестбанка ўключае больш за сто работ, сярод якіх жывапіс, графіка, акварэль, напісаныя ў 1990-я гады. Аўтары карцін — нашы сучасныя знакамітыя майстры, члены Беларускага саюза мастакоў: Уладзімір Тоўсцік, Міхаіл Басалыга, Сяргей Давідовіч, Ягор Батальёнак, Віктар Барабанцаў, Віктар Ціханаў, Людміла Карнеева, Аляксей Кокцеў, Ігар Арлоў ды іншыя.

Выставачная пляцоўка ператварылася ў прастору для падарожжаў. Беларускія краявіды на палотнах мастакоў — дарагая памяць. Дзесьці мы бачым прыгожы вясновы захад сонца, дзесьці паглыбляемся ў лясны гушчар, гуляем па прыгожых палях. І галоўнае, што кожны мастак адчувае прыроду па-свойму. Тут няма паўтораў і падобных стыляў, кожны з аўтараў адкрывае гледачу душу, у якой жыве вялікая любоў да роднай зямлі.

Па словах старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, кожны з прадстаўленых аўтараў заслугоўвае павагі. Бо індывідуальны стыль выпрацаваць заўсёды складана. І таму вельмі важна, што творами мастакоў цікавяцца, іх набываюць. Гэта найлепшае дасягненне.

Белінвестбанк набывае мастацкія работы айчынных аўтараў на працягу многіх гадоў, прычым аддае перавагу творам, якія нясуць думку, эмоцыю. Самі супрацоўнікі на адкрыцці праекта распавядалі, што многія



*Падчас выстаўкі.*

творы размешчаны ў працоўных кабінетах. І калі некаторыя карціны вывезлі на выстаўку, у памяшканні стала пуста. Гэта сведчанне, што мастацтва сілкуе чалавека, натхняе яго на працу.

— Збіраючы творы мастацтва, мы, па-першае, падтрымліваем творцаў, мацуем культурны здабытак рэспублікі і, па-другое, паказваем, што ведаем і адчуваем свае нацыянальныя карані, — адзначыў на адкрыцці выстаўкі старшыня праўлення банка, кандыдат эканамічных навук, дацэнт Андрэй Брыштэль. — Наша ўстанова ўдзельнічае ў сацыяльна значных ініцыятывах, аказвае спонсарскую падтрымку ў ажыццяўленні шэрагу культурных праектаў, сярод якіх фестывалі «Славянскі базар у Віцебску» і «Лістапад». Белінвестбанк адзначаўся дыплом «Мецэнат культуры Беларусі».

Як мяркуюць мастакі, прыватныя кампаніі ў наш час даюць магчымасць творцам зарабіць, ды і карціны не будуць пакінутымі без увагі на паліцы: кампаніі часта прадастаўляюць творы са сваіх калекцый для разнастайных выставак. Такая сістэма — вялікі ўнёсак ў фарміраванне і развіццё нацыянальнай культуры.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Віктар Ціханаў «Цёплы дзень», 1991 г.*

## Культурны ракурс



Помнік у гонар святкавання 1000-годдзя Брэста з'явіўся ў цэнтры горада ў 2009 годзе — за дзесяць гадоў да памятнай даты. Велічны манумент на скрыжаванні вуліц Гогаля і Савецкай узведзены на добраахвотныя ахвяраванні гараджан і сродкі, вылучаныя горадам. Аўтары праекта — скульптар Аляксей Паўлючук і архітэктар Аляксей Андраюк.

Вышыня помніка — 15 метраў. Кампазіцыю вянчае анёл-абаронца, які трымае ў адной руцэ крыж, а ў другой — шчыт. Анёл глядзіць у бок Брэсцкай крэпасці — адтуль калісьці пачынаўся старажытны горад Бярэсце.

Першапачаткова планавалася ўсталяваць статую Багародзіцы, але ў шматканфесійным горадзе над Бугам не змаглі дамовіцца аб кананічным адлюстраванні Божай Маці, прымальным для вернікаў усіх канфесій.

Але вернемся да самой скульптуры. Крыламі анёла ахінутыя постаці легендарных гістарычных дзеячаў, чый унёсак стаў для Брэста неацэнным, і алегарычныя вывы Маці, Летапіса і Безыменнага салдата.

Валынскі князь Уладзімір Васількавіч трымае ў руках Брэсцкую вежу — вежу данжон, пабудаваную ім у 1276 — 1288 гадах, і Іпацьеўскі летапіс, у якім упершыню згадваецца Брэст. Вялікі князь Літоўскі Вітаўт увянчаны каронай, а ў руках — меч — знак велічы і непераможнасці, чым і славілася Брэсцкая зямля. У руках асветніка Мікалая Радзівіла Чорнага — Біблія, якую надрукавалі па яго загадзе. Постаць Маці сімвалізуе сыноўнюю любоў брэсцкага народа да сваёй зямлі. Летапісец сімвалізуе 1000-гадовую гісторыю горада, а Безыменны салдат — адзін з тых, хто бараніў Брэст ад ворагаў падчас Вялікай Айчыннай вайны. Словам, ні адной выпадковай дэталі ў скульптуры няма.

У 2011 годзе на помнік дадаткова ўсталявалі гарэльеф, які адлюстроўвае шэсць эпізодаў з гісторыі Брэста. Першы распавядае легенду пра заснаванне Брэста: «Ехаў купец і заграз у балоце. І каб выбрацца з яго, загадаў сваім служкам змайстраваць гаць з бярэсты». Другі эпізод адлюстроўвае будаўніцтва горада, трэці — Грунвальдскую бітву, чацвёрты — гісторыю друку Берасцейскай Бібліі, пяты — гераічную абарону Брэсцкай крэпасці, шосты — асваенне беларусамі космасу (сярод першапраходцаў — ураджэнец Брэсцкага раёна Пётр Клімук).

На ніжнім ярусе помніка ўсталяваны 12 пліт, якія ўтвараюць сімвалічны гадзіннік. Сёння гэты манумент — адзін з самых пазнавальных сімвалаў Брэста, любімае месца для сустрэч і шпацыраў, што і адлюстравана на фота.

**Алена БЫКОВІЧ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
13.04.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1561.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1416

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686